Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ
Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 2 (4802) 16 студзеня 2015 г.



# За духоўнасць!



Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка ўручае прэмію загадчыку аддзела Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі Барысу Лазуку.

Фота БелТА

**У Палацы Рэспублікі ў Мінску прайшла цырымонія ўручэння прэмій Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне», спецыяльных прэмій дзеячам культуры і мастацтва, «Беларускі спартыўны Алімп».**

Па выніках 2014 года прысуджана пяць прэмій Прэзідэнта Беларусі «За духоўнае адраджэнне». Сярод лаўрэатаў — калектыў Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь, які ўвасобіў нацыянальна-гістарычную тэматыку ў спектаклях і пастаноўку балета «Вітаўт».

Кіраўнік дзяржавы прысудзіў 10 спецыяльных прэмій Прэзідэнта Беларусі. У ліку ўганараваных — аўтарскі калектыў у складзе дацэнта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Людмілы Дамнянковай, дырэктара творча-эксперыментальнага прыватнага ўнітарнага прадпрыемства «Гударт» Пятра Лабковіча і загадчыка аддзела старажытнабеларускай культуры Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Барыса Лазукі. Узнагароджаны яны за навуковую і творчую працу па адраджэнні нацыянальнай культуры і асабісты ўнёсак у стварэнне экспазіцыі Музея гісторыі слуцкіх паясоў у Слуцку. Раней гэтая старонка нацыянальнай гісторыі і культуры была мала вядомая шырокай аўдыторыі.

Унікальная экспазіцыя створана ўсяго за паўтара года. Наведвальнікі музея могуць патрапіць у атмасферу XVIII стагоддзя, калі ствараліся знакамітыя рарытэты, і даведацца пра традыцыі вырабу паясоў не толькі ў Беларусі.

Сярод уганараваных спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта — ансамбль песні і танца «Медуніца» Магілёўскай абласной філармоніі, аўтарскі калектыў у складзе супрацоўнікаў Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі Алены Боганевай і Тамары Варфаламеевай, педагога Цэнтра дадатковай адукацыі «Ветразь» Кастрычніцкага раёна г. Мінска Мікалая Козенкі; калектывы мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой», творчых майстэрань Цэнтра сучасных мастацтваў і Неглюбскага сельскага цэнтра ткацтва Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці.

Прэмія прысуджана галоўнаму спецыялісту прадпрыемства «Мінская спадчына» Сяргею Багласаву, мастаку-скульптару, члену Беларускага саюза мастакоў Сяргею Бандарэнку, прафесару кафедры малюнка Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Уладзіміру Ганчаруку і інш.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Свет цудаў у Вялікім

**13 студзеня, у ноч святкавання старога Новага года, гасцей прымаў Вялікі навагодні Баль у Вялікім тэатры. Сёлетняе свята было напоўнена новымі музычнымі, танцавальнымі і інтэрактыўнымі праграмамі, нумарамі салістаў тэатра і запрошаных калектываў. Адметна, што колькасць наведвальнікаў свята расце з году ў год.**

Дамы апрануты ў бальныя і вячэрнія сукенкі, мужчыны — у смокінгі або элегантныя касцюмы: для ўдзельнікаў балю абавязковы дрэс-код! У імправізаванай школе бальных танцаў кожны мог узяць урок у балетмайстра-пастаноўшчыка Вольгі Кастэль.

Падчас балю глядзельная частка і фае тэатра ператварыліся ў імправізаваныя вакзальныя станцыі і гарадскія вулачкі краін свету: тэма чарадзейнага «Навагодняга экспрэса» ў гэты вечар была галоўнай. А распачаўся баль парадам зорак Вялікага і сцэнай з трэцяй карціны оперы «Пікавая дама» Пятра Чайкоўскага. Лепшым салістам оперы і балета, артыстам хору, аркестра і кардэбалета тэатра ўручана штогадовая навагодняя тэатральная прэмія «БелСвісБанка».

Праграму пабудавалі так, каб госці былі не толькі гледачамі, але і непасрэднымі ўдзельнікамі ўрачыстасці: яны апынуліся ў магічнай атмасферы Італіі. Свае майстэрства тут дэманстравалі мастакі, жанглёры і мімы. Ва «Усходнім салоне» госці паглыбіліся ў таямнічы свет Усходу. Пластычную кампазіцыю на вершы хоку прадставілі студэнты Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. У «Астралагічным салоне» прапаноўвалася паваражыць на картах Таро, а ў фае тэатра — сфатаграфавацца з жывымі статуямі.

Свята ўпрыгожылі творы айчынных, рускіх і заходнееўрапейскіх кампазітараў. Танцавальную праграму адкрыў Рускі баль (дырыжор — Іван Касцяхін): удзельнікі выканалі паланэз. За гадзіну да апоўначы пачаўся традыцыйны святочны канцэрт-сюрпрыз пад кіраўніцтвам дырыжора-пастаноўшчыка Андрэя Галанава, у аснову якога лягла раманічная казка «Навагодні экспрэс». Госці сустрэлі стары Новы год. Вытанчаны Венскі баль (дырыжор — Андрэй Іваноў) з удзелам вядучых салістаў оперы працягнуў праграму. У камернай зале імя Л. П. Александроўскай салісты тэатра прадставілі арыгінальныя канцэртныя праграмы «Опера смяецца» і «Блакітны агеньчык» (рэжысёр — Алена


Фота БелТА

Медзякова). Запрашаў адпачыць і паэтычны салон «Служэнне муз».

На працягу ўрачыстасці ў фае працавалі стылізаваныя кавярні, у адной з якіх — «Тайны Парыжа» — транслíраваліся шэдэўры нямога кіно. У кавярні «Агні Манхэтэна» размясцілася фотазона.

Пасля апоўначы забаўляльную праграму прадоўжыў тэатр вогненных і светлавых паказаў «Элементаль», які прадставіў шыкоўнае светлавое шоу. У праграме «Княжацкія гульні» прагучалі сярэднявечныя народныя і аўтарскія кампазіцыі ў выкананні групы «Ірдарад» — аднаго з самых нестандартных музычных калектываў у стылі fantasy folk. Тэхнікай непаўторнага танца авалодвалі ў «Танга-салоне». Завяршыўся «Вялікі навагодні Баль у Вялікім тэатры» 14 студзеня.

**Яна ЯВІЧ**

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка накіраваў спачуванні родным, блізкім і калегам народнай артысткі СССР Алены Абразцовай у сувязі з яе смерцю. «Яна была выдатнай спявачкай, мела голас непаўторнай сілы і прыгажосці, яе творчасць стала сапраўдным культурным здабыткам усяго свету», — гаворыцца ў спачуванні.

✔ 22 — 23 студзеня будуць вызначаны пераможцы 54-га Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі», які праводзіць Міністэрства інфармацыі для вызначэння лепшых выдавецкіх праектаў. Кнігі, выпушчаныя ў 2014 годзе, можна прадставіць для ўдзелу ў творчым спаборніцтве да 20 студзеня. Галоўнай намінацыяй стане Гран-пры конкурсу — «Трыумф». Пераможцы будуць узнагароджаны падчас XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, якая пройдзе з 11 па 15 лютага.

✔ Званне «Культурная сталіца Беларусі-2015» афіцыйна перайшло да Брэста. Цырымонія перадачы гораду сімвалаў рэспубліканскай акцыі адбылася 12 студзеня ў акадэмічным тэатры драмы падчас урачыстага закрыцця міжнароднага фестывалю класічнай музыкі «Студзеньскія музычныя вечары».

✔ Выстаўка сучаснай беларускай графікі і жывапісу, арганізаваная Пасольствам Беларусі ў Германіі, прадстаўлена ў горадзе Грайфсвальд. Экспазіцыя ўключае 27 графічных твораў 20 аўтараў з калекцыі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў і 13 карцін вядомай мастачкі, члена Беларускага саюза мастакоў Ганны Сілівончык.

✔ XV Свята музыкі «Заслаўе-2015» пройдзе 23 студзеня ў Заслаўі. Гасцей чакае абласны конкурс юных выканаўцаў дзіцячых школ мастацтваў Мінскай вобласці, канцэрт сучаснай песні "Музычныя сустрэчы на Заслаўшчыне" з удзелам Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга.

✔ Заўтра ў аднноўленай сядзібе Міхаіла Клеафаса Агінскага ў Залессі Смаргонскага раёна пройдзе першы дабрачынны «Баль у "Паўночных Афінах"». Сродкі, атрыманыя ад білетаў і запланаванага аўкцыёну, будуць накіраваны на набыццё экспанатаў для музея-сядзібы і іншыя дабрачынныя мэты.

✔ Сёння ў Цэнтры сучасных мастацтваў стартуе ўнікальны праект — лабараторыя вулічнага тэатра. На працягу чатырох месяцаў 60 жадаючым прапануецца бясплатнае навучанне асновам вулічнага інтэрактыўнага тэатра паводле праграм еўрапейскай школы.

✔ Для народнага тэлевізійнага шоу «Я магу!», якое арганізуе Белтэлерадыёкампанія, адабрана 120 нумароў. У сталічным Палацы спорту праходзяць здымкі шасці паўфіналаў праекта. Першы з іх гледачы «Беларусь 1» убачаць ужо 31 студзеня.

✔ У Беларускім дзяржаўным універсітэце пачынаецца прыём заявак на ўдзел у XII Міжнародным фестывалі студэнцкіх тэатраў «Тэатральны куфар-2015 БДУ», які будзе праходзіць з 29 лістапада па 6 снежня. Заяўкі прымаюцца да 1 мая.

✔ Святкаванне старога Новага года зладзілі ў Тэатры беларускай драматургіі. З музычна-забаўляльнай праграмай «Каляды» выступіў народны калектыў БДУІР «Гаманіна», адкрылася выстаўка трох мастакоў — Андрэя Меранкова, Уладзіміра Кандрусевіча і Тамары Шэлест. Завяршыўся вечар паказам камедыйнага спектакля «Адамавы жарты» рэжысёра Святланы Навуменка.

# Belarus без стэрэатыпаў

Прэзентацыя кнігі «Reassessing Lukashenka: Belarus in Cultural and Geopolitical Context» («Пераацэньваючы Лукашэнку: Беларусь у культурным і геапалітычным кантэксце») адбылася 13 студзеня ў Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Аўтар, прафесар сацыяльнай геаграфіі ўніверсітэта Рэдфарда (ЗША) Рыгор Іофэ, правёў у ВНУ сапраўдны майстар-клас. Амерыканскі публіцыст распавёў пра тое, як «нарадзілася» выданне, прысвечанае беларускаму грамадству і яго лідару, а таксама адзначыў неабходнасць аб'ектыўнай ацэнкі палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў Беларусі.

Кніга, створаная па матэрыялах інтэрв'ю з Прэзідэнтам Беларусі, запісаных Рыгорам Іофэ ў 2011 годзе, з'явілася напрыканцы 2014-га з разлікам на англамоўную аўдыторыю. Першыя часткі датычаць эканомікі, беларускага грамадства ў цэлым, стаўлення Захаду да нашай краіны. Асоба Кіраўніка дзяржавы ў поўнай меры раскрываецца толькі ў чацвёртай частцы выдання, дзе прадстаўлены палітычная біяграфія, вытрымкі з інтэрв'ю і дванаццаць рэфрэнаў, ці высноў. У дадатку можна знайсці транскрыпты размоў Рыгора Іофэ з Прэзідэнтам.

Аляксандр Лукашэнка паўстае ў кнізе Рыгора Іофэ жывым сапраўдным чалавекам. Публіцыст лічыць, што гэта «палітык, які зрабіў сябе сам, асоба з магутным пачуццём уласнай годнасці, той, каго цяжка зламаць».

Рыгор Іофэ працуе над беларускай праблематыкай з пачатку 2000-х. Прафесар нарадзіўся і вырас у Маскве, але з дзяцінства часта наведваў Беларусь: яго мама і бабуля родам з Мазыра, а продкі шмат часу пражылі на Палессі. Аднойчы, ужо ў Амерыцы, ён выпадкова прачытаў некалькі публікацый англамоўных аўтараў пра Беларусь. Тэксты абурылі эксперта відавочным няведаннем базавых фактаў і прадузятасцю высноў. Так Рыгор Іофэ адважыўся выказаць свае думкі і напісаць серыю з трох артыкулаў пад агульнай назвай «Разуменне Беларусі». Гэта было першай «прыступкай» на шляху да стварэння кнігі. З часам даследчык-палітолаг стаў рэгулярна пісаць нарысы пра Беларусь для сеткавага часопіса «Eurasia Daily Monitor».

«Немагчыма займацца тэмай Беларусі і абысці яе палітычнага лідара. Краіна развіваецца больш паспяхова, чым пра гэта прынята казаць на Захадзе, а яе Прэзідэнт — вельмі гарманічны і адкрыты чалавек. Я паглядзеў на Аляксандра Лукашэнку аб'ектыўна, з натуральных гістарычных пазіцый, прааналізаваў высокую ступень яго адпаведнасці таму народу, на чале якога ён знаходзіцца, каб разбурыць стэрэатыпы», — распавёў Рыгор Іофэ.

Ён паведаміў, што цікавасць да Беларусі ў ЗША вырасла з таго часу як Мінск стаў пляцоўкай для мірных перамоў па Украіне, а таксама пасля правядзення беларуска-амерыканскага інвестыцыйнага форуму ў верасні мінулага года.

На думку рэктара Акадэміі кіравання Марата Жылінскага, «развагі прафесара Рыгора Іофэ дапамагаюць зразумець, што ж на самай справе адбываецца ў Беларусі, краіне, якая мае правы быць паўнавартасным удзельнікам сусветнай супольнасці». Пакуль невядома, ці будзе кніга перакладацца на беларускую і рускую мовы, бо гэта асобная вялікая праца, для якой патрэбны энтузіясты.

**Марыя ВОЙЦІК**

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Планы і правілы

**Пленум Праўлення СПБ адбыўся днямі ў Мемарыяльнай зале Дома літаратара. Падведзены вынікі працы грамадскай арганізацыі за мінулы год і абмеркаваны планы на 2015-ы.**



Фота Кастуся Дробава

Творцы падчас пасяджэння.

Старшыня СПБ Мікалай Чаргінец зазначыў: колькасць членаў арганізацыі паступова павялічваецца, але разам з тым правілы прыёму ў творчую арганізацыю становяцца больш прынцыповымі.

Сёння ў СПБ 590 творцаў, у тым ліку 14 лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, 3 — прэміі СНД «Зоркі Садружнасці», 7 — спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, 2 — прэміі «За духоўнае адраджэнне», 9 — прэміі Федэрацыі прафсаюзаў. Акрамя таго, 5 пісьменнікаў узнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны, 18 — медалём Францыска Скарыны.

Мікалай Іванавіч звярнуў увагу на плённую працу Мінскага гарадскога і абласных аддзяленняў СПБ, падзякаваўшы іх кіраўнікам за садзеянне ўмацаванню пазіцый літаратуры ў нашай краіне. Больш як 200 найменняў кніг, напісаных і выдадзеных членамі СПБ, сведчаць пра высокі ўзровень развіцця айчыннага прыгожага пісьменства. Шмат твораў ужо можна знайсці і ў інтэрнэце. Працягваецца творчае супрацоўніцтва СПБ з прыватнымі выдавецтвамі «Харвест» і «Чатыры чвэрці».

Актыўна падтрымліваюцца ў краіне і юныя таленты: толькі ў Мінску працуе 15 дзіцяча-юнацкіх літаратурных студый. Урокі мужнасці ў Мемарыяльнай зале Дома літаратара праводзіць празаік Алесь Савіцкі. Для юных ладзяцца разнастайныя літаратурныя конкурсы, як, прыкладам, штогадовае творчае спаборніцтва, арганізаванае сумесна з рэдакцыяй часопіса «Роднае слова». Летась гэты конкурс быў прысвечаны 70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Маладыя сябры СПБ — Людміла Клачко, Рагнед Малахоўскі, Ганна Чумакова, Маргарыта Латышкевіч — рэгулярна ладзяць сустрэчы з чытачамі ў бібліятэках.

Шмат зроблена кіраўніцтвам СПБ для ўмацавання сувязей з айчыннымі музеямі, дзе праходзяць цікавыя імпрэзы. Па ініцыятыве творчай арганізацыі сёлета адкрыты помнік Максіму Танку ў Мядзеле.

М. Чаргінец засяродзіў увагу на падрыхтоўцы і ўдзеле членаў СПБ у XXII Міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы, якая традыцыйна пройдзе на пачатку лютага. Ганаровым госцем форуму сёлета стане Кітайская Народная Рэспубліка.

Пра планы творчай і арганізацыйнай дзейнасці на бягучы год распавёў першы сакратар СПБ Генадзь Пашкоў. Акрамя ўдзелу ў міжнародным кніжным форуме ў ліку мерапрыемстваў — канферэнцыі і конкурсы, прысвечаныя 70-годдзю Вялікай Перамогі, імпрэзы, прымеркаваныя да юбілеяў пісьменнікаў-класікаў, і шмат што іншае.

Старшыня МГА СПБ Міхась Пазнякоў акрэсліў памеры ўступных і гадавых членскіх узносаў на 2015-ы. Сума ўступнага ўзносу сёлета супадае з памерам 1 базавай велічыні (180 тысяч рублёў), а для тых членаў пісьменніцкай арганізацыі, якія не працуюць, — 0,5 базавай велічыні. Вызваляюцца ад аплаты ўдзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, блакаднікі, вязні канцлагераў, інваліды I групы, а таксама тыя, хто дасягнуў 80-гадовага ўзросту. Няўплата ўзносаў цягам двух і больш гадоў лічыцца парушэннем Статута і вядзе за сабой адпаведную адказнасць.

Пра дзейнасць рэгіянальных пісьменніцкіх арганізацый распавялі старшыні Брэсцкага і Гродзенскага абласных аддзяленняў СПБ Анатоль Крэйдзіч і Людміла Кебіч. Людміла Антонаўна пазнаёміла прысутных са сваім новым намеснікам — паэтам, перакладчыкам, публіцыстам Дзмітрыем Радзівончыкам.

Генеральны дырэктар Беллітфонду Мікалай Коваль далажыў пра дзейнасць Беллітфонду ў 2014-м і яго стасункаў з Міжнародным літаратурным фондам.

Мінулы год для пісьменніцкай арганізацыі прайшоў пад знакам 80-годдзя з дня ўтварэння Саюза пісьменнікаў СССР і Саюза пісьменнікаў БССР. Актывізавалася творчая дзейнасць мастакоў слова, адбылася кансалідацыя творчых індывідуальнасцей.

Пленум пастанавіў: прызнаць работу Прэзідыума СПБ здавальняючай, адзначыць мэтанакіраваную і плённую дзейнасць СПБ па далейшым развіцці літаратурнага працэсу, павышэнні яго эфектыўнасці ў грамадска-палітычным жыцці Беларусі ў 2014 годзе; зацвердзіць план правядзення мерапрыемстваў СПБ на 2015 год, патрабаваць яго строгага выканання; арганізацыйна-творчую і масава-выхаваўчую работу СПБ скіраваць на знамянальную сустрэчу 70-годдзя Вялікай Перамогі, на далейшае патрыятычнае выхаванне кожнага творцы, майстра слова; правесці рэспубліканскую канферэнцыю ваеннай тэматыкі СПБ сумесна з Міністэрствам абароны Рэспублікі Беларусь і Студыяй ваенных пісьменнікаў пры Цэнтральным Доме афіцэраў; сумесна з міністэрствамі культуры і інфармацыі ўзяць удзел у арганізацыі і правядзенні Дня беларускага пісьменства ў г. Шчучыне Гродзенскай вобласці 7 верасня 2015 года, папярэдне правёўшы конкурс лепшых твораў 2014 года; хадайнічаць перад дырэктыўнымі органамі аб выданні 6-томнага Збору твораў народнага пісьменніка Беларусі Івана Чыгрынава; у Год моладзі карпатліва і штодзённа працаваць з творчай літаратурнай моладдзю, актыўней рэкамендаваць новыя таленты для прыёму ў шэрагі СПБ; павысіць патрабавальнасць для вызначэння штогадовых стыпендый маладым літаратарам, патрабаваць ад іх справаздачы аб выкананні творчых праектаў, устанавіць гранічны ўзрост стыпендыятаў — 31 год; пры ўступленні ў СПБ плаціць узнос у памеры 1 базавай велічыні.

**Яна ЯВІЧ**

# Падарожжа з Купалам

**Так называецца фатаграфічны праект Вольгі Сяргеевай і Альберта Цехановіча, прэзентаваны ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. У межах праекта адбылося адкрыццё яго першай часткі — выстаўкі мастацкай фатаграфіі Вольгі Сяргеевай «Блізка».**

Намеснік дырэктара музея па навуковай рабоце Наталля Стрыбульская зазначыла, што работы Вольгі Сяргеевай надзвычай тонка перадаюць непаўторны каларыт, уласцівы адно купалаўскім мясцінам. Аўтарская ідэя сугучная галоўнай думцы Купалавага верша «Не шукай»: паэт заклікае шукаць і знаходзіць шчасце і долю не «на чужым далёкім полі», а на радзіме. Дарэчы, другая частка праекта, прысвечаная замежным мясцінам, звязаным з асобай і лёсам Янкі Купалы, будзе называцца «Далёка».

Вольга Сяргеева — выпускніца хімічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта (1981). Выкладчык БДУ, кандыдат хімічных навук, дацэнт. Больш як 20 год працавала ў лабараторыі хіміі фатаграфічных працэсаў. «Падарожжа з Купалам», кірункі якога падказаны лёсам і творчасцю паэта, пачынаецца з Вязынкі. Фатаграфіі, зробленыя В. Сяргеевай за апошнія тры гады ў ваколіцах малой радзімы песняра, а таксама на Міншчыне і поўначы Беларусі, адлюстроўваюць натхнёны купалаўскімі радкамі погляд аўтаркі на беларускі краявід. Нездарма ж падчас прэзентацыі фотамастак Іван Пятровіч зазначыў: «Фатаграфія — гэта свет, у якім праз тэхніку перадаецца стан чалавечай душы». Усе здымкі экспануюцца ўпершыню.

Паводле фотамастака Андрэя Васкрасенскага, работы В. Сяргеевай здзіўляюць перш за ўсё ўменнем аўтаркі вобразна, па-мастакоўску перадаць простасць. Самая доўгая дарога ў жыцці кожнага — шлях да разумення простых рэчаў.

Фотамастак, суаўтар праекта «Падарожжа з Купалам» Альберт Цехановіч распавёў прысутным пра спецыфічную ручную тэхніку срэбнага адбітка, у якой выкананы фотаработы Вольгі Сяргеевай. Што ж да назвы выстаўкі, то В. Сяргеева і А. Цехановіч пэўны час вагаліся паміж двума варыянтамі — «Тут» і «Блізка», але ўрэшце спыніліся на апошнім, бо ён паўней адлюстроўвае лейтматыў паэзіі Янкі Купалы.

Выстаўка «Блізка» адкрыта да 26 студзеня.

**Яна ЯВІЧ**

*Між іншым*

# Сямейнае чытанне

**Рэдакцыя часопіса «Вясёлка» пры фінансавай падтрымцы Беларусбанка выдала казачны каляндар «Свята ў хату».**

Да кожнага народнага свята (а іх у календары дванаццаць — па колькасці месяцаў у годзе) змешчана займальная казачная гісторыя. Скажам, у студзені апавядаецца пра Шчадрэц, у лютым — пра Масленіцу, у сакавіку — пра Гуканне вясны і г. д.

Яркія героі, каларытныя абрады, займальныя сюжэты — усё гэта цікава дзецям. Думаецца, што каляндар будзе карысным і для дарослых. Напрыклад, на якое свята гатуюць багатую Куццю? Як правільна калядаваць? Як дзяўчыне дазнацца імя будучага мужа? Словам, гэта выданне для захапляльнага сямейнага чытання.

Застаецца толькі шчыра падзякаваць стваральнікам унікальнага календара: пісьменніцы Раісе Баравіковай, фотамайстру Дзмітрыю Сапсаю і аўтару праекта, намесніку галоўнага рэдактара часопіса «Вясёлка» Анастасіі Радзікевіч.

**Зіновій ПРЫГОДЗІЧ**

# Бібліятэкары жартуюць

Першы ў новым годзе нумар «Вожыка» раскрывае чытачам шмат сакрэтаў. Напрыклад, ці ведалі вы, пра што размаўляюць лямпачкі, батарэйкі і пластыкавыя бутэлькі? Глядзіце і чытайце фельетон-комікс Алены Карасёвай і Аляксандра Каршакевіча «Рэінкарнацыя», фельетон Андрэя Сідарэйкі «Мама, падары мне... монстра!», быль Васіля Семенюка «Ганарар».

У рубрыцы «Арыгіналы» часопіс пазнаёміць з новым жанрам — «антосікі», які прапануе член літаратурна-паэтычнага клуба «Выток» (працуе пры Дзяржынскай ЦРБ) Антон Анісовіч у дадатак да ўжо добра вядомых «міранізмаў», «церушнак» ды «януселек-карацелек». Малюнкі кітайскіх майстроў алоўка і пэндзля будуць дэманстравацца ў падборцы «Імпарт». А ў рубрыцы “«Вожык” у асобах» згадваюцца два шчырыя «вожыкаўцы», якія аддалі «калючаму» выданню шмат гадоў жыцця і творчасці, — пісьменнікі Якаў Герцовіч і Валянцін Зуб, творы якіх не страцілі актуальнасці і сёння.




Цэлы россып анекдотаў на любы густ чакае чытачоў у новай рубрыцы «Бібліятэкары жартуюць», а таксама ў жартоўным «Календары-2015» з малюнкамі вядомых айчынных мастакоў-карыкатурыстаў. Дапытлівыя асобы з цікавасцю разгадаюць галаваломку «Пусці паэта ў агарод...», калі, вядома, разбіраюцца ў старажытнагрэчаскай міфалогіі, прыказках і армянскім хлебе з хрэнам. «Калючык» пазнаёміць юных чытачоў з навінкай кнігавыдання Выдавецкага дома «Звязда» — кнігай Анатоля Зэкава «Вожык вёз сараканожак», у якой шмат пазнавальнага, павучальнага і займальнага.

**Юрый ВЯРБІЦКІ**



*Вясёлыя танцы на каляднай імпрэзе.*

# Беларускія Каляды. Вільня

Студэнты кафедры этналогіі і фальклору БДУКіМ павіншавалі з Калядамі выкладчыкаў і вучняў Вільнюскай гімназіі імя Францыска Скарыны, дзе навучанне вядзецца на беларускай мове.

Прывітанне гаспадарам дома, ваджэнне казы, пажаданні здароўя і дабрабыту на ўвесь год, вясёлыя танцы і гульні — усе гэтыя элементы традыцыйных беларускіх Каляд былі захаваныя ў тэматычным прадстаўленні. Адзінае адрозненне — домам стала школьная зала, гаспадарамі — настаўнікі, а членамі вялікай і дружнай сям'і — вучні. Ды агульнай атмасферы Каляд гэтая змена роляў ніяк не пашкодзіла. Настаўнікі з радасцю віталі гасцей, дзеці спявалі ўжо вядомыя ім песні «Лявоніха» і «Юрачка», танцавалі Картузэ, вадзілі вялікі карагод.

— Свае калядныя праграмы мы са студэнтамі — будучымі этнафонаznаўцамі — прадстаўляем у гэтай гімназіі ўжо шмат гадоў, — распавёў загадчык кафедры этналогіі і фальклору БДУКіМ Вячаслаў Калацэй. — Што тут заўсёды сустракаюць з радасцю. Дзеці ўжо ведаюць некаторыя песні, ахвотна далучаюцца да танцаў і карагодаў. Ім цікава быць удзельнікамі свята, слухаць спевы, знаёміцца з гучаннем новых музычных інструментаў.

Беларускія Каляды для літоўскіх школьнікаў, якія вучацца на беларускай мове, — магчымасць далучыцца да традыцыйнай культуры беларусаў, а таксама пашырыць уласныя веды пра нашу краіну. Сёлета асаблівую ўвагу навучэнцаў звярнулі на сябе гліняны гляк (адметны народны інструмент) і, натуральна, сімвал бягучага года па кітайскім календары — Каза.

**Марына ВЕСЯЛУХА, фота аўтара**

# Заняткі для качанятак

**Новая кніга маладой айчыннай пісьменніцы Яны Явіч «Уцёна хоча ведаць» прэзентавана ў сталічнай дзіцячай бібліятэцы № 15.**

Калектыў кніжніцы актыўна супрацоўнічае з Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі. Летась яе гасцямі былі многія сябры МГА СПБ: старшыня аддзялення Міхась Пазнякоў, Ніна Галіноўская, Уладзімір Мацвеенка, Сяргей Трахімёнак, Уладзімір Мазго, Уладзімір Скарынкін… Сустрэча з Янай Явіч сталася лагічным працягам гэтай творчай эстафеты.

Юныя гледачы — вучні пачатковых класаў сталічных школ № 206 і № 213 — з першых хвілін шчыра дыялогу з аўтаркай палюбілі герояў кнігі: дапытлівую качачку Уцёну, разумнага пацучка Крысавіцу, забаўнае павучаня Серабрыну…

Пісьменніца распавяла гісторыю стварэння новай кнігі, адказала на пытанні прысутных. Дзеці даведаліся, што шлях у літаратуру Я. Явіч пачынала з вершаў, яшчэ школьніцай, а яе любімай кнігай у дзяцінстве былі «Дзяніскавы расповеды» Віктара Драгунскага.

**Анжэла ПРАЖАН**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**16 студзеня** — *на юбілейны творчы вечар празаіка і публіцыста Славаміра Антановіча. Мерапрыемства пройдзе ў Доме журналіста (вул. Сурганава, 48а). Пачатак а 18-й гадзіне.*

**18 студзеня** — *у літаратурнае аб'яднанне «Акорд» пры дзіцячай бібліятэцы № 2 (вул. К. Чорнага, 10) на творчую сустрэчу з пісьменнікам, старшынёй Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхасём Пазняковым. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**19 студзеня** — *пісьменнікаў сталічнага аддзялення СПБ у Дом літаратара (вул. Фрунзэ, 5) на чарговы сход аддзялення. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**20 студзеня** — *на пасяджэнне клуба аматараў мастацкага слова пры Фундаментальнай бібліятэцы Белдзяржуніверсітэта (пр. Незалежнасці, 4, каб. 229). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**22 студзеня** — *на чарговае пасяджэнне літаратурнага клуба «Парнас», у межах якога пройдзе творчы вечар маладой паэтэсы Алены Басікірскай. Імпрэза адбудзецца ў публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**22 студзеня** — *у літаратурную гасцёўню пры інтэрнаце Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта (вул. Карбышава, 42) на творчую сустрэчу з празаікам Сяргеем Трахімёнкам. Пачатак а 18-й гадзіне.*

# У Лунінцы...

Чарговая сустрэча аматараў краязнаўства памяці пісьменніка-земляка Мікалая Калінковіча (1950 — 1990) адбылася ў лунінецкім Доме культуры чыгуначнікаў.

Дырэктар краязнаўчага музея Наталля Благадзёрава перадала кнігі М. Калінковіча ў школы Мікашэвіч і Багданаўкі. Супрацоўнік раённага аддзела КДБ Сяргей Хамук уручыў памятны дыплом настаўніцы Лунінецкай гімназіі Наталлі Бойка за спрыянне вучням у даследаванні мінулага Лунінеччыны. Памятны дыплом і падарунак ад станцыі Лунінец атрымалі трэцякласніца лунінецкай СШ № 2 Анастасія Чарнавокая і яе настаўніца Алена Баган.

Выкананнем вершаў краязнаўчай тэматыкі ўразіла публіку дзевяцікласніца Багданаўскай СШ, выхаванка дзіцячай школы мастацтваў Яна Антановіч. Дыплом памяці братоў-мастакоў Георгія ды Міхаіла Ішчанкаў і падарунак ад дыстанцыі пуці ёй уручыла старшыня раённага савета ветэранаў педагагічнай працы Наталля Казанкова.

**Таццяна КАНАПАЦКАЯ**

Пазнаёмілася я ў нашым Гродне з цікавым паэтам. Вельмі незвычайныя вершы, падкупляюць свежасцю думкі, уражваюць нябесным светаадчуваннем — тым, чаго не хапае нашай беларускай паэзіі. Аўтар — Віктар Івашка, працуе мулярам. Носіць у сабе Божую іскру, пра што сведчаць не толькі яго вершы, але і малюнкі, фотаздымкі.

**Тамара МАЗУР**

Віктар ІВАШКА



## «…Я іду ў цішыню нябёс»

***

*…надвор'е цябе не псуе…*
*і не зацямняюць ночы…*
*(калі супадаюць: твае…*
*й чыесьці яшчэ*
*вочы).*

***

*…што мае голас —*
*ноч успомніла.*
*і сон сустрэла песняй новаю…*
*келіх нягрэшнасцю напоўніла...*
*(з адбіткам —*
*зоркай вечаровую).*

***

*…сеецца холад*
*лягчэй…*
*…цёплае*
*цяжка ўзыходзіць…*

*…лёсу абдымкі — ямчэй.*
*ён*
*свой пагляд*
*не адводзіць.*

***

*…Старонку адгорнеш..*
*і Слова паўторыш…*
*(не птушка Яно)*
*…адно:*
*не вернеш*
*у лозы*
*віно.*

***

*...наракае мо хто на лёс...*
*як дзяцей, нараджае крыўды…*
*узгадоўвае, песціць прывіды...*
*...я*
*іду*
*ў цішыню*
*нябёс.*

***

*…ціха ветрык шапоча ў лісці…*
*дзень самлеў... і пабляк блакіт…*
*…і душа не шукае выйсця…*
*заблудзіўшыся ля ракі.*

***

*…як да Цябе данясці сваю плынь*
*праз пераслед і суцэльныя страты?!.*
*…Полымя Голас:*
*— Палай!.. не астынь!..*
*...хай «паміраюць»… кідай зярняты.*

***

*…пах чаромхі… песні салаўёў…*
*...прахалодай дыхае рака...*
*…на плячы маім — замест тваёй —*
*веснавога вечара рука.*

Ганна АТРОШЧАНКА



## Перарост

*З самых лепшых на свеце мясцінаў,*
*З Перароста мае карані.*
*Ад Сямёна праклалі сцяжыну*
*Мае продкі на роднай зямлі.*

*Працавалі да сёмага поту,*
*Завіхаліся з плугам, касой,*
*Шанавалі любую работу,*
*Умываліся разам з зарой.*

*Апраналіся проста і з густам,*
*І нямоглых было ім шкада!*
*І дзялілі апошнюю лусту*
*З тым, каго напаткала бяда.*

*…З самых лепшых*
*на свеце мясцінаў!*
*З Перароста мае карані.*
*Каб мой род у бядзе не загінуў,*
*Пакланюся я нізка*
*зямлі…*

***

*О, краю родны, благаславёны,*
*Натхненне сёння падары!*
*Каб дуб задумлівы, зялёны*
*Шумеў лістотай у бары.*

*Каб зелянела жыта ў полі,*
*Знікала горыч, нібы дым,*
*Каб не было вайны ніколі,*
*А родны кут —*
*не стаў чужым…*

***

*Ранак выдаўся марозны,*
*Іней выткаў палатно.*
*А мароз — зусім не грозны,*
*Зашыфроўвае акно.*

*Вуліца, нібы пустыня,*
*Белым будзе далягляд.*
*На вярбе крумкач застыне,*
*І марозу ён не рад.*

*…Заўважае вострым вокам*
*Чорны птах мяне ў акне,*
*Узлятаючы высока,*
*Дасылае кліч вясне.*



Фота Кастуся Дробава

Уладзімір МАЗГО



## З чыстага ліста

*А снег нябёсы расхістаў*
*І долу асыпаўся,*
*Каб зноўку з чыстага ліста*
*Твой новы дзень пачаўся.*

*Каб па сумётах трапяткіх*
*Вялі чыстапісанне —*
*Два паралельныя радкі —*
*Акрыленыя сані.*

*Каб чараваў дзявочы смех,*
*Іскрысты і спакусны,*
*І раставаў гарачы снег*
*На палахлівых вуснах…*

*А снег нябёсы расхістаў*
*І долу асыпаўся,*
*Каб зноўку з чыстага ліста*
*Твой новы дзень*
*пачаўся.*

## Гітара

*Зноў рукою пяшчотна крану*
*Лебядзіную шыю гітары.*
*І няўзнак — за струною струну,*
*Абуджаючы гукі, — удару.*

*Як ад жарсці, яна запяе.*
*І салодка застогне — ад болю.*
*Зноўку радасным плачам яе*
*Нечаканую прагу спатолю.*

## Дыялог

*— Я цябе адну кахаю,*
*Ненаглядная мая.*
*— Ах! Чаму, сама не знаю,*
*Гэтым казкам веру я?*

*— Ледзь твае спаткаю вочы —*
*Яркім полымем гару.*
*— Сваю ласку і пяшчоту*
*Аднаму табе дару.*

*— Палавінкі разам скласці —*
*Будзе цэлае адно.*
*— Захмяліла раптам шчасце,*
*Як салодкае віно.*

*— Спадзяванні паланілі*
*Нашы сэрцы ў гэты міг.*
*— Сум і радасць падзялілі*
*Мы з табою на дваіх.*

## Пасля свят

*Зноў на душы самотна,*
*Колка,*
*Калі на сметніку*
*Ляжаць*
*Заўчасна знішчаныя*
*Ёлкі,*
*Каб толькі звычай*
*Паважаць…*

*Яны ж маглі расці*
*І цешыць*
*Красою зімні далягляд,*
*А мы прывыклі*
*Цацкі вешаць*
*На іх*
*На святы акурат.*

*А мы спяшалі*
*Упрыгожыць*
*Лясной красуняй*
*Хатні кут*
*І не здагадваліся,*
*Можа,*
*Што робім лесу*
*Шмат пакут.*

*І цяжкі грэх*
*Бяздумна робім*
*На навагоднія дзянькі,*
*Бо ў снежным лесе,*
*Як шматкроп'і,*
*Чарнеюць*
*Сумныя пянькі…*

## З пачутага

*Іграе дыск, старая*
*Мелодыя гучыць,*
*І сэрца — замірае,*
*Каб з ёю адпачыць.*

*Яна прыйшла здалёку*
*Праз далі і гады.*
*Яна для нас у спёку —*
*Нібы глыток вады.*

*А хвіляй навальнічнай —*
*Як сонечны прамень.*
*Чароўны дыск музычны —*
*То лівень, то духмень.*

*Нібыта подых ветру*
*У стомленай цішы,*
*Абуджанае рэтра*
*Калышацца ў душы.*

*Мелодыя жывая*
*Спакою не дае:*
*Той сэрцам напявае,*
*Хто раз пачуў яе.*

## Траецкае прадмесце

*Каб нам не памыліцца*
*У гістарычным змесце,*
*Аднаўлена ў сталіцы*
*Траецкае прадмесце.*

*Тут, у кутку найлепшым,*
*Спатканні прызначаюць,*
*Сваім каханым вершы*
*І песні прысвячаюць.*

*Званы стагоддзяў звонка*
*Зайграюць на званіцы —*
*Ажно пяе дахоўка*
*З дыхтоўнай чарапіцы.*

*А вецярок па крыгах*
*Бяжыць як апантаны,*
*Дзе Свіслач і Няміга*
*Навекі паяднаны.*

*Дзе зорныя манеты*
*Ляцяць на дно, як грошы,*
*Каб нам вярнуцца ў гэты*
*Куточак найпрыгожы.*

*Каб нам не памыліцца*
*У гістарычным змесце,*
*Аднаўлена ў сталіцы*
*Траецкае прадмесце.*

# Анатоль ЗЭКАЎ

## ЗЭКавычкі-2

# Дзяды і ўнукі



*Каб жанр мой стаў вам болей звычны*
*І пачуваўся ў вас як дома,*
*Зноў трапаную «ЗЭКавычкі»,*
*Пад нумарам другім, вядома.*

### АЎТАБІЯГРАФІЧНАЕ

Свой дзень народзінаў у студзені я святкую двойчы: 18-га — калі нарадзіла маці, і 20-га — калі ў сельсавеце запісаў бацька. Апошняя дата трывала прапісалася і ў пашпарце. Такім чынам, 20 студзеня мне споўніцца роўна 60 год! Ды і сваё гучнае прозвішча Зэкаў (гэта дакладна не псеўданім) атрымаў толькі на другім годзе жыцця, а хадзіць і размаўляць вучыўся пад матчыным — Зарэцкі. Відаць, бацькі яшчэ тады, перапісваючы на Зэкава, рыхтавалі мяне ў пісьменнікі, бо ў беларускай літаратуры ўжо быў адзін Зарэцкі — Міхась. Ды, мабыць, і Юліі Зарэцкай, сённяшняму галоўнаму рэдактару часопіса «Вожык», не хацелі замінаць, хаця тады яна, праўда, яшчэ не нарадзілася.

### ПАЧНЁМ З ДРЭВА

Я некалі распавядаў унуку пра тры галоўныя справы, якія абавязкова павінен зрабіць у жыцці кожны мужчына. І цяпер Мікіта ведае іх: пасадзіць дрэва, пабудаваць дом і нарадзіць сына.

Падчас вясновых канікул паехалі на тыдзень у вёску, дзе жыве мой бацька, а Мікітаў, значыць, прадзед. У адзін з дзён цікаўлюся, ці памятае ўнук пра галоўныя мужчынскія справы, ён адказвае — аж словы ад зубоў адлятаюць.

— З чаго пачнём? — пытаю.

Мікіта глыбакадумна чэша патыліцу, а потым, сумеўшыся, узнімае на мяне вочы і, пацепваючы плячыма, неяк няпэўна кажа:

— Можа, з дрэва?

Нібыта ў яго, дзевяцігадовага, ёсць іншы выбар.

### ЧАМУ ЗМОЎК УНУК

Мой унук Мікіта — такі гаварун! Яно і нядзіўна. З самага маленства, як толькі навучыўся чытаць, апантана захапіўся рознымі дзіцячымі энцыклапедыямі. Пазней нават камп'ютар не адбіў гэтай ахвоты. Калі і ўключыць яго, то заззычай не гульні цікавяць, а інтэрнэт: вышуквае звесткі пра розныя гістарычныя падзеі, факты з астраноміі, жыцця жывёл. І потым сваімі ведамі — пра ўсё, што толькі даведаецца, — абавязкова жадае падзяліцца з іншымі, асабліва з дарослымі. Распавядаў бы і распавядаў.

Калі едзем на цягніку ў вёску, ён заўсёды знойдзе субяседніка. Размовы на ўсю дарогу хапае. Я, адным словам, адпачываю.

Аднойчы, праводзячы нас дваіх у чарговую паездку ў вёску, мама сказала Мікіту:

— Ты ж, сынок, калі якая жанчына ў дарозе патрапіцца, дай і дзеду паразмаўляць, а не балбачы толькі сам.

Заходзім у вагон, уладкоўваемся. Побач — дзве сімпатычныя жанчыны. Цягнік адпраўляецца, колькі часу ўжо едзем, а ўнук на дзіва маўчыць.

— Ты што, не ў настроі? — пытаю.

— У настроі, — упэўнена адказвае Мікіта.

— А чаму тады маўчыш? — не разумею я.

Унук схіляецца бліжэй да мяне і, азіраючыся на жанчын, шэпча на вуха:

— Дык мама ж сказала...

### УСЯ АСТРАНОМІЯ

На асеннія канікулы выбраліся з унукам у вёску. А дзясятай гадзіне вечара сышлі на станцыі з цягніка, а неба такое зорнае! І чыстае-чыстае. Кожная зорачка — як на далоні. І Палярная, і Млечны шлях, і ўсе гэтыя Мядзведзіцы...

Унук аж аслупянеў ад такога відовішча. А потым радасна ўсклікнуў:

— Дзед, ты толькі паглядзі: уся астраномія на небе!

І насамрэч, хіба такое ўбачыш у асветленым агнямі вячэрнім ці начным Мінску, дзе паміж шматпавярховікамі толькі і мігцяць невялікі кавалак неба?

### ХТО ДЗЕ ВЫРАС?

З унукам адпраўляемся ў лясную вандроўку. Канец кастрычніка, начныя замаразкі перад гэтым завяршылі грыбны сезон, таму проста гуляем, любуючыся рознакаляровай ад лісця асенняй прыгажосцю. Збочваем з наезджанай дарогі, па якой заходзілі ў лес, і няспешна прасоўваемся ўсё глыбей і глыбей у гушчар, адзін за адным мінаючы беразнякі і дубнякі. Я тым часам распавядаю ўнуку пра мясціны, дзе мы з братам Пецем найчасцей траплялі на баравікі, дзе больш шанцавала на падасінавікі, а дзе па восені наладкоўвалі кошыкі пад самую дужку апенькамі.

— Дзед, а мы не заблукаем? — раптам насцярожана пытае ўнук.

— Ды што ты, — супакойваю Мікіту. — Я ж, лічы, вырас тут.

— У лесе? — не разумее ўнук.

— А што тут дзіўнага? — развейваю я хлапчуковы сумненні. — Так звычайна кажуць пра тыя мясціны, якія чалавек ведае як пяць сваіх пальцаў. У маленстве ўсе недзе вырастаюць. Там, дзе ёсць рака, — на рэчцы, дзе ёсць возера — на ім. А для патапаўскай дзятвы такім месцам быў лес. Тут мы, падлеткі-падшыванцы, гулялі ў «партызаны», трэслі арэшнік, сюды бегалі па ягады і грыбы, разам з бацькамі ездзілі па дровы...

Унук слухае мяне ўважліва, не перабівае, а потым, калі я змаўкаю, усклівае:

— Як гэта ўсё цікава! — і з нейкім сумам прамаўляе: — А я вось, атрымліваецца, вырас у горадзе? — і раптам ажыўляецца і даволі сур'ёзна дабаўляе: — Але ж крышачку і ў лесе, праўда, дзед? Вось сёння пабылі і ў наступны раз, калі прыедзем у вёску, пойдзем. І яшчэ многа-многа разоў сходзім...

— Абавязкова сходзім! — абяцаю я. — І з кожным такім паходам ты будзеш усё больш станавіцца лясным чалавекам. А потым і свайго гарадскога ўнука прывядзеш сюды. Дамовіліся?

Унук згодна ківае галавой. Бачу, што задаволены. І ў мяне на душы таксама радасна.

### КАЛІ З'ЯВІЎСЯ ПЛАНШЭТ

Распавядаю ўнуку пра сваё маленства. Кажу, што тады мы не толькі не мелі мабільнікаў, камп'ютараў і планшэтаў — у нашай вёсцы, калі я пайшоў у школу, на той час нават электрычнасці не было. На печы пры лямпе-газнічцы ўрокі вучылі. Мікіта слухае, хоць яму насамрэч і цяжка ўявіць, як такое магло быць.

А праз які тыдзень унук, чытаючы кнігу пра вайну, раптам натыкаецца на сказ: «Камандзір разгарнуў планшэт...» Хапае кнігу і бяжыць да мяне:

— Дзед, а дзед, памятаеш, як ты мне распавядаў пра сваё маленства і казаў, што ў вас нічога не было? А тут, вунь бачыш, напісана, што ўжо ў вайну планшэты былі...

### ХВАРОБА ЦІ СТАРАСЦЬ?

Калі з унукам былі ў вёсцы, мне недзе прыхапіла спіну. Раніцай прачнуўся — і з ложка падняцца не магу. Каб стаць на ногі, на руку абапіраюся, чаго раней ніколі не было. Потым, праўда, крыху расхаджуся — і ўсё як быццам наладжваецца.

Мікіта са спачуваннем глядзіць на мае ранішнія пакуты і раптам пытае:

— Дзед, а гэта ў цябе па старасці ці па хваробе?

— А якая розніца? — не разумею я.

— Ну, калі па старасці — гэта добра, а калі па хваробе, дык дрэнна.

Дзякуй, унучак, супакоіў. Хаця не ведаю, што лепш. Бо ні хваробы не хочацца, ні старасці...

Зрэшты, калі прыехалі ў Мінск, ужо ў метро, у электрычцы, унук паказаў на вольнае месца:

— Сядай, дзед, у цябе ж спіна баліць.

— Ой, унучак, баюся, што потым падымацца будзе цяжка.

— Не бойся, дзед, мы ж да канцавой едзем. А там усіх падымаюць, —супакоіў унук.

### ВЁСКА ЦІ ГОРАД?

Калі ўнук даведаўся, што ў нашай Патапаўцы прыгарадны цягнік-дызель два разы прыпыняецца, дык быў так здзіўлены — аж усклікнуў:

— Ого, дзед! Гэта ж як метро ў горадзе, толькі што цягнік не пад зямлёй, а паверсе ходзіць!

І тры крамы ў вёсцы Мікіту таксама ўразілі, на што ён таксама адгукнуўся:

— Дык гэта ўжо і не зусім вёска, а больш — горад.

А мне пад радасныя ўнукавы воклічы сумна падумалася: вось калі я хадзіў у школу, у ёй было пад тысячу вучняў. Да таго ж на тэрыторыі сельсавета, у меншых вёсачках, меліся яшчэ дзве пачатковыя і тры васьмігадовыя школы. Сёння ж адна наша не налічвае сотні вучняў. А з наступнага навучальнага года яна і зусім, кажуць, пяройдзе ў шэраг базавых. Вось табе, унучак, і горад.

### БІБЛІЯТЭКА ДЛЯ ЎНУКА

Неяк прачытаў абвестку, што «Комсомольская правда» выдала цэлую бібліятэку кніг у серыі «Залатая калекцыя юнацтва» і прапануе 25 тамоў па такіх правілах: кожны асобнік каштуе 25 тысяч беларускіх рублёў, але калі купляеш усю бібліятэку, то кошт кнігі зніжаецца да 17 тысяч. Хоць сёе-тое з гэтага збору ў мяне было, ды жаба задушыла: купіў усё оптам і вырашыў падарыць унуку.

У апошні момант, праўда, нешта тармазнула. Падумаў: вось аддам, а ці будзе чытаць? І таму прыдумаў такі хітры ход: кнігі пакідаю ў сябе дома, а ўнук будзе прыязджаць і браць, як у бібліятэцы. Толькі з той розніцай, што, прачытаўшы, не вяртае, а пакідае кнігу сабе. Так вось паступова цягам часу і перавязе ўсе тамы ад мяне.

І што заўважыў: у хлопца насамрэч нейкі спартыўны азарт з'явіўся. Патэлефаную, бывае, а ён хваліцца: ужо дачытваю, хутка па новую кнігу прыеду.

А заадно і я разам з ім падсеў на юнацкую класіку. Быццам у сваё маленства вярнуўся. Бо на кнігах Верна, Купера, Дэфо, Твена, Джаваньёлі, Дзікенса, Грына, Каверына некалі і маё пакаленне вырасла. І бацькі нашы іх чыталі. Класіка ж ніколі не старэе.

### З АКНА І ЗА СЕМ КІЛАМЕТРАЎ

Унук не любіць ездзіць у вёску з бабуляй. Бо калі ідзе гуляць на вуліцу, тая яго настаўляе:

— Ты, унучак, гуляй так, каб я цябе ў акно бачыла.

І ў мяне, калі першы раз прыехалі ў Патапаўку, Мікіта таксама запытаў:

— Дзед, а дзе мне гуляць?

— Сем кіламетраў туды, — паказаў я ў адзін бок, — і сем — туды, — махнуў у іншы, супрацьлеглы.

— Дзед, — сумеўся ўнук, — а ты ж казаў, што праз лес, за тры кіламетры, ужо іншая вёска — Мядзведзева.

— Вось за ёй можаш яшчэ кіламетры чатыры прайсці, — працягнуў я свой жарт. — Далей толькі не хадзі.

А Мікіта нікуды і не хадзіў. Гуляў каля хаты і, па сутнасці, быў бачны з таго самага акна, пра якое якраз і бабуля згадвала. Але як акрыляла хлапчука адчуванне, што яму шмат дазволена! Што значыць воля — і для дарослых, і для дзяцей.

### БЯЗБАЦЬКАВІЧЫ І БЯЗДЗЕДАВІЧЫ

Пад вечар бяром ровар і ідзём з унукам на дваровы стадыён, дзе ён кожны раз наразае кругі па беговай дарожцы. Часам і я спрабую круг-другі праехацца. Мікіту гэта асабліва падабаецца. Аказваецца, і дзед можа круціць педалі. І не горш, чым ён сам.

— Гэта ж добра, што ў мяне ёсць татка, — нечакана кажа ўнук.

Я не ведаю, што і адказаць на гэта.

А Мікіта працягвае:

— А не было б таткі, дык не было б і дзеда. А так у мяне не толькі дзед ёсць, а яшчэ і прадзед Коля ў вёсцы — ну, твой тата, праўда ж?

Я ківаю галавой, а ўнук не спыняецца:

— А каб у мяне была адна мама, дык нікога б не было. Мама ж казала, што яе татка памёр, калі яна ў школу хадзіла. А дзед — яшчэ раней. — І Мікіта ў сваіх развагах перакідваецца далей: — А вось у нашым класе не ва ўсіх таткі ёсць.

Разам з ім разважаю і я. Моўчкі, бо Мікіту асабліва суразмоўца і не патрэбны, унук і сам любіць пагаварыць — абы слухалі.

А і насамрэч, колькі іх, хлапчукоў і дзяўчынак, растуць у сем'ях без татак! Яны не толькі бязбацькавічы, а яшчэ, бывае, і бяздзедавічы.

### УСЁ Ў ЖЫЦЦІ ПАЎТАРАЕЦЦА

У лесе, пад дубамі, Мікіта збірае жалуды, набівае імі паўнюткія кішэні.

— Навошта яны табе? — пытаю.

— Каля дзедавай хаты пасаджу, — адказвае.

— Так многа? — здзіўляюся я.

— Ага. Не ўсе ж прымуцца...

А я згадваю гарадскую гісторыю з маім маленькім сынам Сяргеем, Мікітавым бацькам.

Сын прынёс з вуліцы кляновае семя-«самалёцік» і садзіць яго ў вазон.

— Што ты робіш? — цікаўлюся.

— Клёнік саджу, — адказвае Сярожка.

— Навошта?

— Хай расце.

— Ну, дапусцім, вырасце вось такі, — паказваю рукамі. — А далей што?

— Выкапаем і пасадзім каля дома.

— Але ж мы можам пайсці ў лес, выкапаць там дрэўца, той жа клёнік, напрыклад, і пасадзіць...

— Ага, тататка, дык тое дрэўца ўжо нехта пасадзіў. А я свой клёнік хачу выраставаць, вазонны.

Што ж, усё ў жыцці паўтараецца.

**Калі кажуць пра літаратуру, перадусім маюць на ўвазе пісьменніка. Затым дадаецца крытык і літаратуразнаўца, радзей — гісторык літаратуры. Яшчэ — выдавец і гандляр. І напрыканцы пачэснага шэрагу незаслужана знаходзіцца чытач, без якога акажуцца непатрэбнымі і першыя, і другія, і трэція. Водгукі чытачоў маюць, магчыма, меншае значэнне ў навуковай сферы, але калі казаць пра жыццё, пра літаратуру як паўнавартасную яго частку, гэтыя водгукі займеюць асаблівую вагу. Бо ў іх — і чытацкія чаканні, і прэтэнзіі, і захапленні. Прапаную вашай увазе некалькі такіх водгукаў. Магчыма, не з усімі ацэнкамі можна пагадзіцца, але цікаўнасць да тэкстаў праз гэта не змяншаецца.**

**Наста ГРЫШЧУК**

# Узнёслыя словы




Уладзімір Гніламёдаў і Яўген Гарадніцкі, вядомыя навукоўцы, у прадмове да кнігі пад назваю «Прырода. Радзіма. Жыццё (Лад паэзіі Міхася Пазнякова)» напісалі так: «Міхась Пазнякоў — постаць шматгранная ў сучаснай літаратуры: паэт, празаік, крытык, перакладчык, публіцыст; піша ён творы таксама і для дзяцей і, апрача таго, з'яўляецца аўтарам некалькіх лексікаграфічных прац (напрыклад, «Слоўніка эпітэтаў беларускай мовы»). У такой разнастайнасці, аднак, няма раскіданасці і эклектычнасці: у розных паводле роду і жанру творах праглядваецца адзін характар — адкрыты, спакойны, далікатны і зычлівы. І цэласны — пры ўсіх сваіх асаблівасцях і адметнасцях».

Новую кнігу Міхася Пазнякова «Наталенне Радзімай» складаюць чатыры раздзелы: «Радзіма, малая Радзіма», «Матчына хата», «Тварыце, людзі, на зямлі дабро», «І будзе зноў гаіць вясна…». У іх увайшлі лепшыя вершы з папярэдніх паэтычных зборнікаў аўтара, але ёсць і нямала новых, у якіх ранейшае грамадзянскае гучанне ўзмацняецца. Але ў рэшце рэшт і яно звяртаецца да вытокаў жыцця паэта, да вёскі Забродзе на Быхаўшчыне:

*Сюды — усе дарогі,*
*Пакуль мне сіл стае,*
*І мары, і трывогі*
*Бясконцыя мае.*
*Сюды: да рэчкі Грэзы,*
*Да лесу і лугоў,*
*Што для мяне, гарэзы,*
*Былі — мая любоў…*

І ў наступных вершах паэт-лірык выпісвае прыцягальную прыгажосць прыроды, якая стала першым яго — і самым моцным — уражаннем.

*Зноўку дома пеняцца сады,*
*Белы вэлюм ахінае хаты,*
*Вечарам ад рэчкі праз брады*
*Саванам паўзе туман кудлаты.*
*Разліваюць трэлі салаўі,*
*Гояць сэрца цнотнаю*
*пяшчотай,*
*Месяц з перапоўненай сяўні*
*Цемру абсыпае пазалотай…*

Пасля ўзнёслых радкоў з болем чытаецца трывожнае «Палыновы ўецца дым // Зарастае рэчка Грэза // Што люляла нас, гарэзаў, у дзяцінстве залатым», «Цэзій пеніцца з бароў // Вадаём — пустая ямка // Стала лесам Забрадчанка // Дзе давілі печкуроў».

Раздзел «Матчына хата» гаворыць сам за сябе, як і аднайменны кранальны верш. Настальгічную карціну дапаўняюць творы «Матчыны рукі», «Да матулі», «У бацькавым садзе», «Сябры дзяцінства», трыпціх «Матуля». Па назвах твораў можна прасачыць біяграфію паэта праз ягонае імкненне паказаць свой вялікі, працавіты род: «Цётка Маня», «Гаспадар», «Дзед», «Бабка Ганна», «Дзядзька Міша», «Дзед Ігнат», «Брату Мікалаю».

Міхась Пазнякоў выказвае таксама словы павагі і любові да суседзяў, пра што яскрава сведчаць вершы «Варшава», «Слухаючы класіку». І тут жа — «Загадка Максіма Багдановіча», прысвечаныя яму «Трыялеты», «У Ракуцёўшчыне», «Беларуская мова».

Гімнам беларусам можна лічыць вершы «Спявае жыта», «На Радзіме», «Коні», «Ліпень» — і «Ветэраны», у якім «…Адыходзяць… // І звон медалёў // Замаўкае, нібыта адвага // Што на тысячах спела палёў // Ад ускраін Масквы да Рэйхстага».

Ёсць шэраг іншых, лірычных твораў, у якіх знаходзіцца месца рэўнасці, каханню, пакланенню дзявочай прыгажосці. Найбольш уражвае «Пісьмо з юнацтва» — пра ліст, які паэт атрымаў праз сорак гадоў ад невядомай жанчыны з Магілёва. Аказваецца, тады Яна кахала Яго. Але «Ні адраса, ні тэлефона, // А словы ўзнёслыя адны, // Нібыта скінула сягоння // Груз той далёкае віны. // Я ўспамінаў наш светлы вечар, // І сэрца дзячыла само // За незабыўную сустрэчу, // За гэта позняе пісьмо».

**Мікола ЛЕЎЧАНКА**

# Надзея заўсёды светлая

*Дабрыдзень, шаноўныя людзі!*
*І вечар хай прыйдзе з дабром,*
*Хай зорная ноч не забудзе*
*Святым ахінуць вас крылом!..*

Прачытаў гэтыя радкі Надзеі Парчук сярод глыбокай ночы, калі пакутаваў ад зацяглага бяссоння. На сэрцы стала лёгка і спакойна.

Сваёй паэзіяй Надзея Парчук сцвярджае, што кожны чалавек павінен заставацца творцам, жыццялюбам, стваральнікам духоўных набыткаў, на кожным кроку жыцця часцей звяртаць позірк да нябёсаў.

Рэдактар альманахаў «Гоман», «Гоман літаратурны», «Талент» Мікола Трафімчук, прыехаўшы на прэзентацыю зборніка «Берагі надзеі», адзначыў: «Ствараючы альманах, мы разумелі, што далёка не кожны зможа прабіцца ў папулярныя, тоўстыя часопісы, так што «Гоман» дапаможа творцам паверыць у свае сілы. Розныя дасылалі вершы, а калі дайшлі паэтычныя творы Надзеі Парчук, стала зразумела: паэтэса мае свой голас, свой стыль вершаскладання, сваё светаадчуванне. Я быў сведкам, як ад кніжкі да кніжкі рос яе талент: станавіўся больш важкім сказ, расла ўвага да радка».

Надзея Парчук заўважае кожны зрух у прыродзе: ад фарбаў да таемнай гаворкі з нябёсамі:

*Лета. Чэрвень. А вечар які! —*
*Запаліў залачоныя зоркі,*
*Разаслаў туманы ля ракі,*
*Пырснуў водарам росаў салодкіх,*
*Запрасіў да сябе на лугі —*
*Для таемнай пад небам гаворкі, —*
*Праслаўляючы час дарагі,*
*Я вітаю сузор'яў суполкі!*

Паэтэса вельмі часта звяртаецца да нябёсаў, выказвае ўдзячнасць сонцу і зорам, якія з нядрэмнай пільнасцю глядзяць «на наш прытулак чалавечы». І ўсё ж аснова неабдымнай прасторы часу — чалавек, лічыць аўтарка.

*Не папракайце вы сяброў,*
*Не папракайце!*
*Каб памнажалася любоў —*
*Сваю аддайце*
*Пяшчоту, ласку і душу*
*Ім на стагоддзе,*
*Бесчалавечнасці мяжу*
*Не пераходзьце.*

Моцны характар паэткі адчуваецца ў вершах. Пісьменніца Таццяна Дземідовіч распавяла падчас прэзентацыі: «Калі думаеш пра штосьці светлае, добрае, то адразу ўспамінаецца паэзія Надзеі Парчук. У паэткі незвычайны талент — мастацкім словам дакранацца да сэрца кожнага чытача. Але яна такая чыстая, светлая, добразычлівая не толькі ў літаратурных вобразах, а і ў жыцці...»

**Мікола ПАНАСЮК**

# Землякі ды героі

Апошнім часам плённа працуе ў літаратуры гамяльчанка Ганна Атрошчанка. Напрыканцы мінулага года пабачыла свет яе новая кніга «Ларыскіны ўспамінкі» (Мінск, ААТ «Ковчег»), у якую ўвайшлі кароткія аповесці, апавяданні, замалёўкі і публіцыстычныя нататкі.

У прадмове да выдання найстарэйшы пісьменнік Гомельшчыны Міхась Даніленка адзначыў: «Даўно сачу за творчасцю Ганны Атрошчанка. Некалькі паэтычных зборнікаў Ганны ёсць у маёй бібліятэцы. Але ў апошні час пачаў для сябе адзначаць, што аўтарка ўсё часцей пачынае мяняць паэтычнае слова на прозу... Па-мойму, проста аўтар ведае: болей за ўсё яна можа выказацца ў празаічных творах».

Ганна Атрошчанка нарадзілася ў вёсцы Ласіны Рог Добрушскага раёна, якой сёння ўжо няма. І калі чытаеш яе новую кнігу, разумееш: галоўныя героі твораў — дзяды і бабулі, аднавяскоўцы, у якіх Ганна вучылася жыццёвай мудрасці. Яна зноў і зноў звяртаецца да іх у апавяданнях «У чужыя сані не садзіся!», «Іванюта», «Машкіна Галя», «Не шукаючы, не знойдзеш!», «Матуліна прадчуванне», «Якое карэнне, такое і насенне», у аповесцях «Сямейныя ветразі лёгкімі не бываюць» і «Вандроўніца Роза».

Пісьменніца паказвае сваіх герояў у розных жыццёвых сітуацыях, іншы раз — у самых недарэчных, але заўсёды піша пра іх з цеплынёй і разуменнем.

Звяртаецца аўтарка і да гарадской тэматыкі. У свой час Ганна Атрошчанка паспела папрацаваць нават на будоўлі. Яркі прыклад яе гарадской прозы — апавяданне «Пераборлівы жаніх».

Апавяданне «Ларыскіны ўспамінкі» дало назву кнізе. Дзяўчына, якая жыве ў горадзе, у чарговы дзень свайго нараджэння з'ехала ў вёску. І ці не там, дзе твае карані, самы час нагарнуцца ўспамінам?

Новая кніга Ганны Атрошчанка — больш упэўнены і цвёрды крок у яе літаратурнай працы.

**Васіль ТКАЧОЎ**

# Паэзія вяртання




Вершы паэта Віцебшчыны Алега Салтука можна часта ўбачыць у друку, і многія творы палюбіліся не толькі беларускім чытачам, але знайшлі сваіх прыхільнікаў і за мяжой. Як доказ — пераклады вершаў на рускую, украінскую, польскую, нямецкую, балгарскую, асецінскую мовы.

У 2014 годзе літаратурная скарбонка паэта папоўнілася новым зборнікам «Вяртанне».

...Вяртанне да сапраўднага, існага, жыццёвага. Вяртанне да самога сябе як да чалавека і творцы — асноўныя матывы новай кнігі А. Салтука. Зборнік падзелены на чатыры часткі: «Ахапіла чаромхай ваколіцу» — вясна жыцця паэта; «Зорнай прычашчуся цішынёй» — летняя пара аўтарскага сталення; «Асяніны мае, асяніны» — восеньскі час жыццёвай мудрасці; «Пакуль душа жывая» — рэаліі сённяшняга жыцця паэта.

Самыя аб'ёмныя ў зборніку першыя два раздзелы, творы ў якіх збольшага прысвечаны Беларусі (але ёсць месца і філасофскаму роздуму пра «ачышчэнне» грамадства) і адлюстраванню вобраза жанчыны.

Здавалася б, гэтыя тэмы агульныя для многіх аўтараў і шырока раскрытыя ў літаратуры. Аднак у вершах Алега Салтука заўжды знаходзіцца слова, якое кранае душу: «Здаецца, прама ў рукі сядзе кнігаўка, / Каб толькі не злавілі птушанят. / Мароз трашчыць, ды з першаю адлігаю / Расінкі п'е памаладзелы сад» (« *** Усё ў прыродзе ў еднасці вякуецца...»).

У трэцім раздзеле кнігі лірычны герой уяўляецца чытачу больш паглыбленым у сябе: ён часта аналізуе асабістае перажытае, разважае. Нямала ў паэзіі Алега Салтука вершаў, пранізаных асабістым і агульным болем. Аўтар нераўнадушны да чалавека, хоць часам і ідэалізаванага.

У апошнім раздзеле «Пакуль душа жывая» паэт часта звяртаецца да духоўна-малітоўнага матыву, імкнецца проста і шчыра перадаць чытачу сваю любоў да ўсяго жывога на зямлі.

Нельга падчас агляду кнігі «Вяртанне» Алега Салтука не звярнуць увагу і на мову твораў: «Вечар даўгацыбенькі і босы хлапчуком у цішыню пабег...» («Вечар»); «Бяроз зялёна-белы шоўк вятры блакітныя палошчуць...» (з аднайменнага верша); «... Вясёлка п'е з рэчкі нагбом» (« *** Да жалю, да скону, да болю»); «... І першую ў снезе праталку паставіў, як коску, прамень» («Капяжы»); «...Пырснулі з пупышак прама ў май рознакаляровыя пялёсткі» («Першаквет») і многае іншае.

Увасабленні і параўнанні дакладна «фатаграфуюць» вобразы мастацкі свет паэта.

Хтосьці лічыць, што паэт паспяховы тады, калі яго творы чытаюць, а кнігі выдаюцца немалымі накладамі. Я ж лічу інакш: сапраўдны паэт той, чые творы кранаюць любога чытача, наводзяць на роздум, а галоўнае — выхоўваюць у чалавеку Чалавека.

**Людміла ГУЙДА**

# Падманлівы спакой радка

## Міколу Аўрамчыку — 95

Бадай, няма такога аматара і знаўцы нацыянальнай паэзіі, які б не ведаў верш «Беларуская сасна»:

*З кожнай штольні пахне беларускай,*
*Баравой, смалістаю сасной…*
*Пад зямлёй праход нязручны, вузкі*
*Выглядае просекай лясной.*
……………………………………
*Ты з настойлівасцю вугаль колеш,*
*Іскры пырскаюць з-пад малатка…*
*Родная сасна пад цяжкай столлю*
*Не аддасць у крыўду земляка.*



Малюнак Алесі Ісы

Заслужана высока ацаніў твор Міколы Аўрамчыка народны паэт Беларусі Пімен Панчанка: «У многіх паэтаў ёсць адзін верш, у якім нібы сканцэнтравана ўся сутнасць і асаблівасць іх паэзіі. У М. Святлова гэта «Гранада», у Я. Смелякова — «Калі я захварэю…», у С. Арлова — «Яго зарылі ў шар зямны» і г. д. У М. Аўрамчыка такім вершам я назваў бы «Беларускую сасну»… Тут усё хараша: і думка, і сюжэт, і вобразнасць. Адразу адчуваеш і гордасць за сваю працу лірычнага героя, і любоў да роднай Беларусі з баравымі соснамі. Але галоўнае — верыш шчыраму голасу паэта. У гэтым увесь Аўрамчык з яго яснай паэзіяй, з любоўю да Радзімы, да людзей працы, з вернасцю франтавому сяброўству…»

Яшчэ адзін народны паэт Рыгор Барадулін калісьці засведчыў: «Пра шчодрасць душы, пра жаданне падзяліцца ўсім самым дарагім сведчаць шматлікія прысвячэнні, па якіх, як і па вершах паэта, можна чытаць геаграфію і біяграфію. А біяграфія Міколы Аўрамчыка трагічная, ахвярная (вылучана мною. — **А. М.**)». Трагічнасць, ахвярнасць у ягоную біяграфію ўнесла Вялікая Айчынная вайна, якую паэт сустрэў студэнтам літаратурнага факультэта Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута.

У аўтабіяграфіі «Пра сябе» М. Аўрамчык піша: «Вестка аб вераломным нападзе гітлераўскай Германіі на нашу краіну застала мяне ў інстытуцкай чытальні, дзе я рыхтаваў апошні экзамен за трэці курс. Уначы 26 чэрвеня з Міколам Сурначовым мы пакінулі ахоплены полымем Мінск, а назаўтра ў высокай збажыне ўзбоч Бабруйскай шашы хаваліся ад фашысцкіх сцярвятнікаў, якія бамбілі і расстрэльвалі з кулямётаў грамадзянскае насельніцтва. Тады ж М. Сурначоў напісаў свой знакаміты верш: «Ляжыць ён забіты ў стоптаным жыце…»

М. Аўрамчык лясамі дабраўся да Магілёва, адтуль паехаў у Мсціслаў, дзе жыў сябра-аднакурснік, разам з якім у шэрагах запаснога палка пайшоў на ўсход. Гвардыі радавы Аўрамчык трапіў на Волхаўскі фронт. Нядоўга паваяваўшы ва ўзводзе славутых «Кацюш», пры акружэнні каля Мяснога Бору быў узяты ў палон. Вывезлі М. Аўрамчыка ў Рур, на каменнавугальную шахту горада Марль: «Кожны дзень на дасвецці з лагера да шахты канваіры праганялі вялікую калону з палонных, абвітую гірляндамі шахцёрскіх лямпаў. Нявольнікаў апускалі ў падзямелле. У лагеры лупцавалі кіямі паліцаі, па дарозе да шахты штурхалі прыкладамі канваіры, а ў падзямеллі кайлом білі штайгеры і іх памочнікі».

*Паўзмрочная капальня ў дымным Руры,*
*І ў ёй не я, а сноўдае штодзень*
*Шкілет, які яшчэ абцягнут скурай,*
*Ды на сцяне — чужы, сутулы цень.*

Верш, з якога прыведзеныя радкі, даў назву кнізе лірыкі «Сустрэча былых канагонаў» (1963), адзначанай Літаратурнай прэміяй імя Янкі Купалы.

Першая ж кніга паэзіі М. Аўрамчыка «Пярэдні край» выйшла ў 1949 годзе. За ёю з'явіліся зборнікі «Шляхамі дружбы» (1952), «Ключы жураўліныя» (1960). Пасля «Сустрэчы былых канагонаў» пабачылі свет кнігі «Універсітэцкі гарадок» (1967), «Агледзіны» (1969), «Як на далоні» (1970), «Дрэва дружбы» (1973), «Вадовішча» (1976). Тройчы выходзілі выбраныя творы і нават зборнік вершаў для дзяцей «Дружба» (1950). Важкія ягоныя набыткі і ў галіне перакладу.

Перажытае ў гады Вялікай Айчыннай вайны нязменна прысутнічае ў творах Міколы Якаўлевіча. Сярод іх вылучаецца верш «Каб гэткага лёсу вы не мелі…»:

*Чужою славай радавым не ласавацца…*
*Але мне крыўдна ўсё ж, што пакрысе*
*У мове прыжылося слова «ўласаўцы»,*
*«Джамільцы» ж слова ведаюць не ўсе.*

Манера пісьма ў М. Аўрамчыка знешне спакойная, але ўражанне такое падманлівае. У яго вершах заўжды прысутнічае прыхаваны драматызм, што сведчыць пра неўтаймаванасць душы лірычнага героя, яго чалавечы і грамадзянскі неспакой. Тое ж і ў рамане М. Аўрамчыка «Падзямелле», сюжэт якога таксама падказаны ўласна перажытым. Але біяграфія апавядальніка — толькі частка таго фактычнага матэрыялу, які выкарыстоўвае пісьменнік. За яго лёсам паўстае лёс пакалення, на долю якога выпалі нечалавечыя выпрабаванні, звязаныя не толькі з ваеннымі дзеяннямі, але і з жахам палону, няволі.

Мікола Аўрамчык — творчы «хросны бацька» многіх беларускіх паэтаў. Загадваючы аддзелам паэзіі часопіса «Маладосць» з 1953 года — з часу яго заснавання — да 1980-га, ён даваў зялёнае святло творам многіх вядомых цяпер паэтаў.

М. Аўрамчык плённа працуе ў галіне мемуарыстыкі, і тут у яго ёсць свае правіла: расказваць толькі пра тых, каго з намі ўжо няма. Расповеды яго заўжды цёплыя, светлыя, і вядуцца яны пранікнёна, з павагай і захапленнем талентам кожнага, каго згадвае. У гэтым пераконвае кніга «Знаёмыя постаці», са старонак якой паўстаюць незабыўныя вобразы Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, Кандрата Крапівы, Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі ды іншых. Асабліва шчымлівыя радкі прысвяціў ён Аляксею Коршаку і Міколу Сурначову, сябрам свайго даваеннага юнацтва. Што не менш важна, ва ўспамінах М. Аўрамчык прыгадвае толькі тое, сведкам чаго быў.

У гэтым упэўніліся ўсе, хто ў сакавіку 2011 года сабраўся ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры на вечарыну, прысвечаную 100-годдзю з дня нараджэння Аляксея Зарыцкага. Выступоўцы згадвалі набыткі Аляксея Аляксандравіча ў паэзіі, прозе, у галіне перакладу. Ды нікога, бадай, не слухалі так уважліва, як Міколу Якаўлевіча.

Сёння ён — старэйшына нашай літаратуры, прыклад, як трэба жыць, працаваць, пісаць, каб заўсёды і ва ўсім заставацца сабой.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# Пасля заслоны

**Няспыннасць і шматграннасць культурнага працэсу маюць адзін недахоп: яны прыводзяць да таго, што некалі знакавыя асобы становяцца «артэфактамі». Такі лёс напаткаў аднаго з сёлетніх юбіляраў: з дня нараджэння драматурга, сцэнарыста, празаіка Валянціна Зуба 9 студзеня споўнілася 100 гадоў.**

Вядомы аўтар нарадзіўся ў сям'і мінскага рабочага, што дало яму самыя шырокія перспектывы, і якраз магчымасць выбару выклікала ў Валянціна пэўныя ваганні, калі перад ім паўстала метафарычнае раздарожжа. Так, спачатку дваццацігадовы юнак скончыў хімікатэхналагічны тэхнікум харчовай прамысловасці ў родным горадзе. А ў 1939 годзе будучы літаратар паступіў на сцэнарны факультэт Усесаюзнага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі ў Маскве.

Годам раней адбыўся і яго пісьменніцкі дэбют: часопіс «Полымя рэвалюцыі» апублікаваў апавяданне, аднак развіццю таленту перашкодзіла вайна. У 1941 годзе В. Зуб пайшоў у народнае апалчэнне. Калі краіна перажыла самы цяжкі час, нядаўні студэнт вярнуўся да вучобы.

Па вызваленні Беларусі ён прыйшоў працаваць на кінастудыю «Беларусьфільм», але паралельна яго цягнула да сатыры, таму неўзабаве малады аўтар апынуўся ў «Вожыку» і застаўся там амаль на 30 гадоў. У той жа час Валянцін Зуб заявіў пра сябе як аўтар гумарыстычных і прыгодніцкіх апавяданняў, многія з якіх былі створаны адмыслова для дзяцей: «Таямнічы надпіс» (1953), «Сапернікі» (1958), «Пад вясновым сонцам» (1960), «Як Толік праславіўся» (1962), «Чорны кот» (1973). У 1985 годзе выйшла яшчэ адна кніга пад назвай «Таямнічы надпіс». Важкі даробак В. Зуба і як драматурга. Лік зборнікаў п'ес ішоў на дзясяткі. Прычым творца аддаваў увагу як дарослым («Злавацца не трэба» (1961), «Нарада ў загсе» (1972), «Не спяшайцеся караць» (1975), «Тыдзень вечнага кахання» (1982), «Надзейная апора» (1985) і інш.), так і дзецям («Дружная сям'я» (1955), «Аперацыя «Шафа» (1967), «П'есы» (1972), «Марат Казей» (1963, пастаўлена ў 1964-м), «Юнацтва рыцара» (1972, пастаўлена ў 1970), шмат аднаактовак знайшло месца на старонках перыёдыкі, перадусім «Бярозкі»). І гэта — акрамя сцэнарыяў навукова-папулярных фільмаў, прычым адзін з іх пад назвай «Фіноз» атрымаў дыплом на Міжнародным фестывалі дакументальных фільмаў у Чэхаславакіі ў 1964 годзе.

Як і ўся творчасць Валянціна Зуба, п'есы для дзяцей не былі роўнымі між сабой з мастацкага пункту погляду. Відавочна, драматург часам ахвяраваў якасцю дзеля шматлікасці п'ес і хуткасці іх стварэння. Яго нават можна лічыць аднаўленцам «малой» формы ў дзіцячай драматургіі, лідарам на гэтай ніве ў паваенны час. Аднаактоўкі Валянціна Зуба сталі друкавацца з пачатку 1950-х гг. У кароткіх, але сацыяльна важных п'есах драматург акрэсліў кола тэм і праблем, якія пазней былі падхопленыя А. Махначом (з сярэдзіны 1950-х гг.), М. Алтуховым (з канца 1950-х гг.), Х. Мальцінскім (у 1960-я гг.) і інш. У адрозненне ад даваенных аднаактовак, сярод якіх было шмат вульгарызатаршчыны, палітычна-сацыяльнай заангажаванасці, «малыя» п'есы пасляваеннага перыяду В. Зуба раскрывалі тэмы сапраўды важныя, актуальныя і цікавыя для школьнікаў. Праблемам вучобы прысвечаны п'есы «Аперацыя «Шафа» (1967), «Не на тым коніку» (1963), «ЧВА» (1972) і інш. Пытанні сяброўства і калектывізму В. Зуб дапамагае вырашыць у п'есах «Дружная сям'я» (1955) і «Выпрабаванне» (1956). Натуральна, у творах тагачаснага аўтара не магла не знайсці адлюстраванне ваенная тэматыка: «Вышыня 88» (1953) і «Незвычайная сустрэча» (1958). Адгукнуўся драматург і на новыя геапалітычныя актуаліі: у п'есе «Дзеці розных народаў» (1951) СССР супрацьпастаўляецца заходняму свету, дзе дзеці пакутуюць і мараць пра савецкі лад. Як ні дзіўна, адгалосак 1930-х гг. у выглядзе «шпіёнскіх» п'есак праслізнуў у В. Зуба праз тры дзясяткі гадоў — «Другая абарона» (1968) пабудаваная ў рэчышчы, здавалася б, зніклай традыцыі: хітрыя і жорсткія дыверсанты маюць намер узарваць электрастанцыю, але пільныя піянеры дапамагаюць прадухіліць дыверсію.

Адзначыўся В. Зуб і ў «вялікай» драматургіі для дзяцей. Так, на рэальнай фактаграфічнай аснове паўсталі п'есы «Марат Казей» (1964) і «Юнацтва рыцара» (1972). П'есы прагучалі ў свой час, аднак не сталі значнай з'явай у мастацкім працэсе: аўтару не хапіла драматургічных сродкаў стварыць псіхалагічна паўнавартасныя характары галоўных герояў.

Несумненна цікавым зваротам да антрапамарфічнай метафорыкі, адушаўлення негатыўных з'яў і сутыкнення іх з рэальнымі школьнікамі, з якімі іх пагодкі-рэцыпіенты могуць атаясамліваць сябе, сталі п'есы «У навагоднi вечар» (1953) і «Не прапусцім» (1954). Творы варта разглядаць як працяг перарваных сацыяльнай рэгламентацыяй у 1920-х гг. традыцый развіцця драматургічнай казкі.

Відавочна, В. Зуб пры стварэнні аднаактовай драматургіі для дзяцей імкнуўся ісці ў нагу з часам. Але бачна яшчэ і тое, што па мастацкім узроўні рэгламентаваныя творы яўна саступаюць п'есам, тэматыка якіх прадыктаваная найперш заўсёднымі турботамі падрастаючага пакалення, а не зменлівымі актуаліямі соцыуму.

Сімвалічна, што 1985 год — калі і пачаліся перамены ў Савецкім Саюзе — стаў і часам апошніх кніг Валянціна Зуба, якога можна назваць сынам сваёй эпохі. Творчасць В. Зуба перастала адпавядаць сацыяльнаму кантэксту, але асобныя п'есы можа «рэанімаваць» і сучасная сцэна.

**Анатоль ТРАФІМЧЫК**

# Гісторыя. Працяг

**«Праклён мітрапаліта Феафіла» — новая кніга серыі «Бібліятэка часопіса «Маладосць». У кнізе змешчаны тры гістарычныя аповесці — «Друеўскі ваўкалак», «Спіраль гісторыі» і «Праклён мітрапаліта Феафіла». Аўтар іх — Уладзімір Мажылоўскі, былы дырэктар вясковай школы, які ў 54 гады нечакана адкрыў у сабе талент пісьменніка.**

**Творы Мажылоўскага — захапляльнае і даволі лёгкае чытанне, якое, тым не менш, грунтуецца на аўтэнтычным гістарычным матэрыяле. Ці наканавана Уладзіміру Мажылоўскаму стаць другім Караткевічам, час пакажа… А пакуль прапануем каларытны ўрывак з аповесці «Друеўскі ваўкалак».**

**Тамара САРАЧЫНСКАЯ,**
**намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць»**


*Фота Аляксандра Шаблюка*

*Віктар Лупасін, Алёна Беланожка і Уладзімір Мажылоўскі на прэзентацыі кніг серыі «Бібліятэка часопіса «Маладосць» у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.*

«...Філімона Касога разбудзілі крыкі жаху, што даносіліся з вуліцы. Ён расплюшчыў вочы. Некалькі імгненняў узіраўся ў цемнату хаты — успамінаў, дзе ён і што тут робіць. Балела галава, нястрымна цягнула на ваніты. «Перапіў учора, — успомніў ён вячэрнюю п'янку. — Трэба пазваць вартавога, каб прынёс вады». Аднак за дзвярыма не сціхалі трывожныя крыкі. Ужо не адзін стралец заскокваў у дзверы і перапалохана клікаў паўсотніка. «Ну што там такое», — не вытрымаў Касы, злосна штурхнуў нагой суседа, што хроп ля самага яго вуха, і падняўся. Храпенне на імгненне сцішылася, стралец пацмокаў тоўстымі вуснамі, перавярнуўся на другі бок і захроп з новай сілай.

Непадалёку палаў дом. Іскры пякучымі зоркамі ўзнімаліся ў неба, круціліся ў ім, плаўна апускаліся на зямлю, яблыні, дахі іншых пабудоў. Пішчальнымі стрэламі трашчалі сухія бярвёны хаты, жалобна ападалі кроквы.

Паўсотнік адразу працверазеў.

— Ты чаму мяне не разбудзіў? — схапіў ён за грудкі перапалоханага дзясятніка Аніську, які мітусіўся на падворку. — Людзей хоць вывелі з хаты?

— Не ведаю, — закаціў вочы дзясятнік. — Не відаць Савы і яго ратнікаў.

— А-а-а, — дзіка зароў Філька ў роспачы і з усяе сілы выцяў кулаком Аніську. — Давай сюды вартавых.

Аднак хто вартаваў ноччу і ці наогул выстаўлялася на ноч варта, ніхто не ведаў.

Урэшце аднекуль з закутка выцягнулі перапалоханага вартавога. Твар яго быў абяскроўлены жахам, вусны трэсліся, цела калаціла ліхаманка.

— Хто гэта зрабіў? — каторы раз паўтарыў пытанне Філька, паглядаючы на палыхаючы двор.

— Ваўкалак! — жах з новай сілай успыхнуў у вачах вартавога. — Сваімі вачыма бачыў — ваўкалак!

— Расказвай, што бачыў, — Філька з усяе сілы трасянуў стральца. — Ну!

— Я бачыў, як ад лесу да таго двара падыходзіў чалавек. Бачыў, як ён бесцялеснай зданню прайшоў праз плот, — успамін выклікаў у няшчаснага слёзы. — Потым бачыў, як адчыніліся веснічкі і з іх выскачыў з акрываўленай пашчай воўк.

— Што ты вярзеш!

— Я бачыў... — заверашчаў вартавы, упаў на зямлю і пачаў па ёй качацца. — Я бачыў! Бачыў!

Паўсотнік з агідай плюнуў у бок стральца і зноў павярнуўся да дзясятніка Аніські:

— Дзе другі вартавы?

— Там ляжыць, — кіўнуў у бок дарогі і ўцягнуў у плечы галаву. — З перагрызеным горлам.

Труп другога вартавога ляжаў на дарозе. Кроў даўно выцекла з яго цела, таму здалёк ён нагадваў спячага чалавека, якога зваліла з ног ліцвінская акавіта. Гледзячы на вартавога, не верылася, што нейкі смяротны мог адважыцца ўступіць з ім у бойку. Ад яго, нават ад нежывога, патыхала нечалавечай сілай. І ўсё ж ён быў мёртвы. Горла стральца падрана на шматкі, і было дзіўна — на чым яшчэ трымалася яго буйная галава.

Філімон глядзеў на забітага са страхам. Кроў пачынала стыць у яго жылах, мерзлі пальцы ног. Гэткі ж страх чытаўся і на тварах астатніх. «Трэба ўцякаць адсюль. Хутчэй».

Раптам ад лесу данёсся дзікі вокліч. Спалатнелы паўсотнік стрепянуўся, схапіўся за шаблю.

— Што там такое? — запытаўся ён у перапалоханых стральцоў і нерашуча выйшаў на дарогу.

Да яго падбеглі чатыры ратнікі. Іх вочы былі шырока раскрыты ад жаху.

— Чаго раскрычаліся? — стараючыся быць спакойным і з цяжкасцю стрымліваючы нясцерпнае жаданне кінуцца да каня і ўцякаць адсюль, прыкрыкнуў ён на перапалоханых падначаленых. — Што ўбачылі?

— Там Ігнатка з Лаўрэнам ляжаць... Загрызеныя.

Апошняе слова прагучала выбухам, заглушыла гул ненажэрнага полымя. Яно прагучала камандай, якой даўно чакалі стральцы і якую ён стрымліваў у сабе з апошніх сіл. Філька раптоўна абяссілеў, абмяк, яго сківіца бязвольна абвісла, вышчараўшы дробныя і вострыя, бы ў пацука, зубы. «Бяжым!» — аднекуль з вантроб пракакатала выратавальнае слова, і ўсе, хто пачуў яго, кінуліся да сваіх коней. Тыя ж, хто не пачуў каманды паўсотніка, усё зразумелі і так і з не меншым імпэтам ухапіліся за лейцы коней, ускочылі ў сёдлы.

«Бяжым!» — адзінае слова, якое імгненна аб'яднала агульнай мэтай некалькі дзясяткаў ратнікаў, і хутка рэшткі паўсотні шалёна імчалі па лясной дарозе ў ранішнюю невядомасць. Куды вяла дарога — нікога не цікавіла. Галоўнае — далей уцячы ад вёскі, далей схавацца ад страшэннай пачвары, не бачыць загрызеных сяброў, не чуць пагрозлівага трэску пажарышча.

І толькі калі ўдалечыні ў промнях узыходзячага сонца ўбачылі купалы друеўскіх цэркваў, маскавіты некалькі супакоіліся, прытрымалі коней...

А вестка пра тое, што баярын Шарамецеў павёў свае войска на Дзісну, нават абрадавала Касога, бо ваяводу, які застаўся ў Друі за галаву, ён ведаў яшчэ з Пскова і не вельмі баяўся».

# Удалы дэбют Уладзіміра Мажылоўскага




Добра памятаю, як пачынаючы з 1988 года пачалі з'яўляцца ў кніжных крамах невялікія кніжачкі ў мяккіх вокладках. Адны з іх (паэтычныя зборнікі) былі зусім танюткімі, старонак на трыццаць, другія (празаічныя) — старонак на сто (што таксама няшмат). Такіх кніжак рэдакцыя часопіса «Маладосць» выдавала тады аж 12 у год, а праіснавала кніжная серыя больш як 12 гадоў… Уявіце, колькі новых імёнаў яна адкрыла! І няхай значная частка з тых аўтараў-пачаткоўцаў не звязала сваё жыццё з літаратурнай творчасцю, усё роўна з'яўленне ў той няпростЫ час новай серыі — знакавая падзея ў беларускай літаратуры.

Потым «Бібліятэка часопіса «Маладосць» спыніла існаванне, здавалася, назаўсёды. Добра, што такое меркаванне аказалася памылковым: ужо трэцяя кніга аднаўленай серыі пабачыла свет у «Выдавецкім доме «Звязда».

Кніга Уладзіміра Мажылоўскага «Праклён мітрапаліта Феафіла» выйшла напрыканцы 2014 года, а крыху раней з'явіліся такія выданні серыі, як «Чамадан з кракадзілавай скуры» Алёны Беланожка і «Скрозь "Маладосць"» з мноствам аўтараў, якіх паяднаў часопіс. Усе тры кнігі выгадна адрозніваюцца ад тых, ранейшых, і аб'ёмам, і афармленнем: гэта ўжо самыя што ні ёсць сапраўдныя кнігі, а не «брашуркі», як раней.

Уладзіміра Мажылоўскага як таленавітага аўтара гістарычных аповесцей «адкрыў» менавіта часопіс «Маладосць», калі напрыканцы 2012 года надрукаваў ягоную гістарычную аповесць «Праклён мітрапаліта Феафіла». Затым на старонках «Маладосці» з'явілася яшчэ адна аповесць У. Мажылоўскага — «Спіраль гісторыі». Творы выклікалі несумненны інтарэс у чытачоў і разам з тым — здзіўленне: аўтару больш як пяцьдзясят, а мы пра яго нічога раней не чулі?..

І вось — першая кніга Уладзіміра Мажылоўскага, у якую акрамя двух згаданых твораў увайшла яшчэ гістарычная аповесць «Друеўскі ваўкалак».

Усе тры аповесці арганічна звязаныя паміж сабой, хоць і ахопліваюць розныя гістарычныя перыяды мінуўшчыны. Чытаючы іх у парадку размяшчэння ў кнізе, чытач паглыбляецца ў гісторыю. Спачатку — у часы Рэчы Паспалітай і знішчальна-разбуральнай для Беларусі руска-польскай вайны, затым мы пераміяшчаемся ў эпоху Івана III і Вялікага князя Аляксандра Ягелончыка, а трэцяя аповесць, хоць і часткова, пераносіць у часы маскоўскага князя Дзмітрыя, якога потым назавуць Данскім.

Колькі людзей, столькі і меркаванняў. Я не зусім згодны з аўтарам у ягонай ацэнцы тых ці іншых гістарычных падзей і асоб. Тым не менш усе творы прачытаў з цікаўнасцю, хоць аповесць «Спіраль гісторыі» мне спадабалася найменш: галоўныя героі аповесці прадстаўлены ў «чорна-белым» варыянце: рэтраграду дырэктару школы супрацьпастаўляецца прагрэсіўны настаўнік гісторыі, баязліўцу і амаль здрадніку Дзмітрыю Данскому — цалкам станоўчы Баброк Валынскі; зноў жа, я не зусім згодны з аўтарскай канцэпцыяй дзейнасці князя Дзмітрыя ў трагічныя часы нашэсця Тахтамыша.

І, пэўна ж, знойдзецца шмат чытачоў, якія аповесць «Спіраль гісторыі» ацэняць зусім па-іншаму.

Адрозная ад яе першая аповесць, «Друеўскі ваўкалак», і дынамічным сюжэтам, і гістарычнай сувяззю з Браслаўшчынай, і нават мясцічнасць не зніжае гістарычнай каштоўнасці аповесці.

Выразна «бачацца» ўсе героі твора: і малады шляхціц Юрый, і яго каханая Насця, і нават Філімон Касы… Менавіта гэтая аповесць яскрава паказвае ўсю моц і глыбіню літаратурнага таленту Уладзіміра Мажылоўскага, які, на мой погляд, толькі пачынае раскрывацца.

**Генадзь АЎЛАСЕНКА**

# І госць, і гаспадар

Бадай, самымі папулярнымі пляцоўкамі для правядзення прэзентацый новых кніг і чытанняў у Беларусі можна назваць літаратурныя музеі, бібліятэкі, кнігарні. Натуральна, уваход на ўсе імпрэзы з удзелам айчынных аўтараў бясплатны, а самі пісьменнікі, калі не жывуць у сталіцы, напярэдадні і пасля прэзентацыі хутчэй за ўсё спыняцца ў гатэлі ці ў знаёмых або паспяшаюцца на цягнік. Пляцоўкі для прадстаўлення новых кніг таксама можна назваць «гасцініцамі для літаратуры»: яны толькі часова здаюцца ў карыстанне пісьменнікам, а пасля імпрэзы зноў жывуць сваім звыклым жыццём, часам зусім не звязаным з літаратурай. Пісьменнікі тут не гаспадары, а госці.

Сёння мы завітаем у некалькі незвычайных дамоў. Яны месцяцца ў Берліне і з радасцю прадастаўляюць нямецкім і замежным аўтарам і перакладчыкам пляцоўкі для прэзентацыі і абмеркавання кніг, плошчы для правядзення выставак памяці вядомых творцаў, літаратурныя стыпендыі, а таксама адмысловыя пакоі, дзе можна жыць разам з сям'ёй. Тут гаспадараць творцы. Калі ласка, запрашаем у Берлінскі літаратурны калоквіум, Берлінскі літаратурны дом і Берлінскую літаратурную майстэрню.

## ДОМ ДЛЯ АЎТАРАЎ І ПЕРАКЛАДЧЫКАЎ

Тут усё нібыта дыхае даўніной. Агромністы дом, пабудаваны ў XIX стагоддзі, высокія столі, драўляная лесвіца, якая паскрыпвае пры кожным кроку, масіўныя дзверы і вялікія вокны. У розныя часы гэта быў прыватны асабняк, сталоўка для амерыканскіх салдат, гасцініца. Сёння тут размяшчаецца Берлінскі літаратурны калоквіум. Адмысловая зала для прэзентацый — ператвораны ў сучаснае памяшканне стары ўнутраны дворык. Пакоі для стыпендыятаў і гарачы суп перад імпрэзамі.

— Пры стварэнні Літаратурнага калоквіума яго заснавальнікі кіраваліся ідэяй арганізаваць прастору для літаратуры, дзе аўтары з розных краін маглі б жыць і працаваць, — распавёў дырэктар гэтай незвычайнай установы Юрген Якаб Бэкер. — Сёння тут 11 пакояў для стыпендыятаў, адмысловыя памяшканні для правядзення чытанняў і прэзентацый кніг. Менавіта кіраўніцтва калоквіума ў 1960-я гады было першым, хто арганізаваў турнэ пісьменнікаў. Яно выклікала шмат увагі і нават транслíравалася па тэлебачанні. І сёння ў Германіі чытанні з удзелам аўтараў досыць папулярныя. Каб паслухаць новыя творы стыпендыятаў, сюды, на станцыю Ванзэе, ахвотна прыязджаюць госці з розных куткоў нямецкай сталіцы.

Літаратурны калоквіум таксама падтрымлівае перакладчыкаў мастацкіх тэкстаў з нямецкай і на нямецкую мову. Адмыслова для перакладчыкаў тут прапаноўваюцца курсы, стыпендыі, а кожную вясну, у сакавіку, праводзяцца міжнародныя сустрэчы прафесіяналаў. Сюды, ва ўтульны старажытны дом, завітвае некалькі дзясяткаў спецыялістаў у галіне перакладу.


Фота з сайта lib-zm.ru

Берлінскі літаратурны калоквіум.

— На некалькі дзён калоквіум ператвараецца ў сапраўдны цэнтр перакладу. Тут збіраецца каля 30 — 40 спецыялістаў галіны, яны абмяркоўваюць важныя прафесійныя пытанні, а потым усе разам выпраўляюцца на кніжны кірмаш у Лейпцыг, — распавёў спадар Бэкер. — Натуральна, такія сустрэчы маюць вялікую карысць для ўсіх удзельнікаў: завязваюцца новыя прафесійныя кантакты, зараджаюцца цікавыя праекты.

Колькасць стыпендый, якія прадастаўляе Берлінскі літаратурны калоквіум для пісьменнікаў, — каля паўтара дзясяткаў на год. Чвэрць з іх — для перакладчыкаў. Стыпендыяльная праграма для кожнага з аўтараў доўжыцца месяц, а малады і перспектыўны нямецкі творца можа правесці ў калоквіуме тры месяцы. На ўвесь гэты час стыпендыятам прадастаўляецца жыллё, а таксама пляцоўка для прэзентацыі і абмеркавання новых твораў. Вельмі важна, што творцы могуць жыць у калоквіуме разам з сям'ёй. Частыя жыхары асабняка і замежныя аўтары. Большасць такіх стыпендыятаў — ураджэнцы краін Усходняй Еўропы ці Азіі. Дарэчы, беларускія творцы таксама могуць стаць удзельнікамі стыпендыяльнай праграмы калоквіума, накіраваўшы заяўку на адрас кіраўніцтва ўстановы.

## ДОМ ДЛЯ ЛІТАРАТАРАЎ

Гэты дом будаваўся ў 1889 — 1890 гадах і да 1960 года выкарыстоўваўся ў розных мэтах. Але ўжо ў 1920-х тут праходзілі літаратурныя імпрэзы, дзе выступалі вядомыя пісьменнікі. Сёння Берлінскі літаратурны дом прапануе наведвальнікам праграму з 10 — 15 імпрэз, ладзіць дзве вялікія выстаўкі на год, мае дзве гасцявыя кватэры, дзе могуць спыніцца творцы. Ёсць утульная кавярня з шырокім выбарам страў, кнігарня.


Фота Марыны Весялухі

Берлінскі літаратурны дом.

Пра гэтае месца і яго жыхароў можна напісаць вялікі раман. Дом будаваўся багатым прамыслоўцам Германам Крозанам для дачкі, якая выйшла замуж за вядомага падарожніка. У 1920-я гады фонд імя Гумбальта зняў памяшканне ў арэнду для аказання падтрымкі таленавітым замежным студэнтам. Тут студэнты маглі танна харчавацца, чытаць замежную прэсу і ўдзельнічаць у культурных імпрэзах. Некаторы час у гэтым доме месціўся рускі клуб «На чердаке», у межах пасяджэнняў якога ў 1927 годзе выступаў пісьменнік Уладзімір Сірын: распавядаў пра сваю тугу па радзіме. Сёння мы ведаем, што псеўданім «Сірын» належыць знакамітаму Уладзіміру Набокаву. Потым у будынку месцілася выдавецтва, якое таксама ладзіла культурныя імпрэзы. Пазней яго арандаваў Чырвоны крыж, і да 1953 года тут быў прытулак для бежанцаў.

Быў час, калі будынак збіраліся аддаць пад знос, але з-за ўвагі ўлад горада яго пакінулі і пачалі рэстаўрацыю. У выніку ўрад Берліна набыў гэты дом і стварыў адмысловую арганізацыю для кіравання яго працай. Так, 1 чэрвеня 1986 года адрэстаўрыраваны Берлінскі літаратурны дом адчыніў свае дзверы для пісьменнікаў і аматараў літаратуры.

— У зале для прэзентацый змяшчаецца каля ста чалавек, але колькасць наведвальнікаў нашых імпрэз залежыць ад характару самога мерапрыемства, — распавёў супрацоўнік Берлінскага літаратурнага дома Себасцьян Янушэўскі. — Не так даўно мы праводзілі чытанні твораў Кафкі, на якія прыйшло каля ста чалавек, а вось сустрэча з прафесарам, вядомым амерыканскім паэтам выклікала цікавасць толькі ў 40 наведвальнікаў.

Літаратурны дом — установа досыць кансерватыўная. Тут не карыстаюцца сацыяльнымі сеткамі для распаўсюджвання інфармацыі пра будучыя імпрэзы, а наведвальнікі вечарын у большасці выпадкаў дарослыя людзі, ва ўзросце 40 — 50 гадоў. Спадар Себасцьян тлумачыць гэта наступным чынам:

— Праца для актуалізацыі інфармацыі ў сацыяльных сетках патрабуе шмат сіл і часу. Мы працуем з больш традыцыйнымі інфармацыйнымі каналамі: маем сваю інтэрнэт-платформу, друкуем праграмы імпрэз, якія пакідаем у кавярнях і рассылаем па пошце, даём абвесткі ў календарах культурных падзей, што публікуюцца ў газетах. Зрэшты, аўдыторыя імпрэзы вызначаецца асобай аўтара: калі мы праводзім чытанні пісьменніка, чые творы актыўна абмяркоўваюцца ў публічнай прасторы, то да нас прыходзіць і моладзь. З аднаго боку, крыху непакоіць адсутнасць маладых людзей на мерапрыемствах, але з іншага — мы ведаем, што ўвагу маладых людзей досыць цяжка прывабіць, зладзіўшы проста літаратурныя чытанні. Зрэшты, успамінаю сябе ў маладосці: не надта любіў наведваць нейкія імпрэзы!

Кіраўнік літаратурнага дома прымае рашэнне, якой будзе праграма на год і якія аўтары тут змогуць прадставіць свае творы. У асноўным праца ўстановы скіраваная на прадстаўленне навінак. Каля 80 працэнтаў праграмы адведзена на прэзентацыі кніг мастацкай прозы і непрыдуманай літаратуры, ці non-fiction. Але і паэзія не застаецца па-за ўвагай: кіраўнік дома — паэт. Напрыканцы года тут праходзяць 3-4-дзённыя канферэнцыі, дзе прадстаўляюцца актуальныя зборнікі вершаў.

Варта адзначыць, што імпрэзы, якія рыхтуе Берлінскі літаратурны дом, — пэўнага кшталту альтэрнатыва шматлікім прэзентацыям бестселераў. Тут на першым месцы — змест і якасць твора, а не патэнцыяльны прыбытак, які кніга можа прынесці выдавецтву. Больш за тое, установа актыўна супрацоўнічае з літаратурнымі крытыкамі, якія прадстаўляюць самыя лепшыя творы і цягам года працуюць над складаннем рэйтынгу кніжных навінак.

— Рэйтынг кніг публікуецца кожны месяц, яго складаюць ад 40 да 50 крытыкаў — фрылансераў ці супрацоўнікаў буйных газет. Цягам 2-3 месяцаў спіс абнаўляецца, сюды дадаюцца навінкі.

## ДОМ ДЛЯ ПАЭТА

Паэзія — адметны род літаратуры. Для паўнавартаснага ўспрымання твора недастаткова проста прачытаць верш у кнізе — патрэбна чуць голас, дыханне. Такога меркавання прытрымліваюцца заснавальнікі Берлінскай літаратурнай майстэрні, праца якой скіраваная на прадстаўленне паэзіі.

— Мы перакананыя, што паэзія — самастойная галіна мастацтва, якая патрабуе асаблівых сродкаў выяўлення. Гэта танец, рытм, музыка, набор літар, які можна прадставіць графічна, адметная вобразнасць, — распавядае кіраўнік майстэрні Крысціна Лангэ. — Менавіта такі падыход адлюстроўваецца ў нашай праграме. Мы прапануем паэтычныя чытанні і асобныя праекты, збіраем паэтаў, кампазітараў, танцораў, харэографаў, якія разам працуюць над прадстаўленнем вобразнасці вершаў.

Літаратурная майстэрня — хутчэй суполка аднадумцаў, прастора для выяўлення новых ідэй, пошуку яркіх рашэнняў. Наведвальнікам прапануюцца адукацыйныя праграмы для дзяцей і дарослых, паэтам — адмысловыя творчыя праекты. Раз на два гады тут ладзіцца фестываль кароткаметражных анімацыйных фільмаў Zebra, падчас якога дэманструюцца ролікі з розных краін, створаныя на аснове вершаў. Існуе і праект «Кузня вершаў», у яго межах некалькі паэтаў і перакладчыкаў працуюць над узаемаперакладам паэзіі. Вынікі іх творчай працы — у фармаце фестывалю.

Адзін з самых значных праектаў майстэрні — распрацоўка адмысловага сайта lyrikline.org з дэвізам: «Паслухай паэта». У яго базе — вершы 1014 аўтараў з больш як шасці дзясяткаў краін. На сайце можна пазнаёміцца з тэкстамі вершаў, а таксама паслухаць іх у выкананні саміх аўтараў. Дарэчы, ёсць тут і творы беларускіх паэтаў.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Грошы замест фарбаў



Скрынка з манетамі, якая пылілася на паліцы шмат гадоў, сталася скарбонкай унікальнага мастацтва. Юрый Матусевіч сядзеў аднойчы за сталом, разглядаў сваю калекцыю і раптам — склаў з бліскучых круглякоў прыгожы малюнак. Так нарадзілася нумітраксія (ад лац. nummus — «манета», traxerit — «маляваць»).

Спачатку з'яўляліся матылькі, птушкі, кветкі. Потым — больш асэнсаваныя і буйныя кампазіцыі накшталт падводнага свету, хрысціянскіх матываў с анёламі ці выяў закаханых хлапчука і дзяўчынкі. Аўтар, Юрый Матусевіч, навучыўся «гуляць» з колерам і памерам манет, прыдумаў асабістую тэхніку і сістэму.

Так, манеты ў яго заўсёды выкладваюцца адным бокам (аверсам альбо рэверсам), — не хаатычна. Выявы маюць у асноўным акруглую форму, і, галоўнае, яны часовыя, таму амаль няўлоўныя.

«Я не пакідаю малюнкі зафіксаванымі. Можна, канечне, прыклеіць манеты да тканіны, але куды больш цікава — зрабіць штосьці часовае. Паглядзеў сам, сфатаграфаваў, паказаў людзям, а потым, калі надакучыць, выклаў новую тэму. Такі прынцып дае прастор для творчасці. Ды і манет у мяне не бясконцая колькасць», — прызнаўся Ю. Матусевіч.

Нумітраксіка нагадвае яму філасофію і супакойвае нервы. Аўтару падабаецца не столькі вынік працы з манетамі, колькі сам працэс: прыблізна такі ж псіхалагічны эфект дасягаецца пры складанні пазлаў ці мазаікі альбо гульні ў тэтрыс.

Паводле стваральніка нумітраксікі, асноўных спосабаў выкладкі манет



усяго тры. Тэхніка «Стужка» дазваляе размясціць медныя кружочкі ўшчыльную, «Луска» — накласці адзін на другі, а «Цагліны» — улічваючы пэўны прамежак, накладваць манеты ўзроўнямі.

«Нумітраксіка — гэта вельмі карпатліва. Адна невялікая памылка прымушае пачынаць малюнак спачатку. Калі манетка звальваецца з «суседкі», падняць яе, каб не «паехалі» астатнія, вельмі складана. Нават для самага простага матыву патрабуецца як мінімум хвілін сорак — гадзіна, каб усё прадумаць», — зазначыў Юрый Матусевіч.

Калекцыя манет збіраецца ў яго з 1991 года, але яе нельга назваць нумізматычнай. «Маё юнацтва прыйшлося на момант распаду СССР, пасля чаго засталіся грошы — не паспеў аднесці ў банк! (*смяецца*). Сярод іх няма надзвычай унікальных накшталт манеты Канстанціна Астрожскага. У асноўным — тое, што актыўна было ў грамадскім ужытку. Нумізматыка — гэта ж цэлая навука, а я проста збіраю ўсё, што трапляе мне ў рукі — сябры і знаёмыя прывозяць з розных краін. Ёсць у мяне французскія, японскія, мексіканскія, турэцкія манеты, зразумела ж, суседнія — з Украіны, Польшчы, Літвы, Расіі. Больш за ўсё падабаюцца аўстралійскія грошы — з выявамі кенгуру, качканосаў і абарыгенаў», — распавёў калекцыянер.

У чым жа ўнікальнасць нумітраксікі? Ёсць, напрыклад, мастакі, якія вялізныя палотны ствараюць з манет і робяць выстаўкі. Але ўсе грошы ў іх аднолькавыя, нібы піксэлі ў камп'ютарным малюнку, і выкарыстоўваюцца толькі як сродак. У Юрыя Матусевіча, наадварот, кожная манета — асобны твор, каштоўнасць. Нумітраксіку нельга блытаць і з дэкаратыўна-прыкладным мастацтвам, у тым



ліку з упрыгожваннем адзення, бо там манеты таксама толькі частка сістэмы.

Што да аб'ёмных выяў, так званых 3D-кампазіцый, то іх Юрый Матусевіч таксама не лічыць нумітраксічнымі. Гэта геаметрыя, дзе галоўнае — захаванне раўнавагі, а не мастацкага сэнсу. Але 3D-тэхніка прываблівае, і я спрабую рабіць нешта ў гэтым кірунку. Ёсць да чаго імкнуцца: пакуль што маё мастацтва крыху кустарнага кшталту. Можна больш увагі надаваць адценням манет, каб малюнкі пераліваліся, а колеры пераходзілі адзін у другі», — падзяліўся аўтар.

Майстар манетнага харства не мае спецыяльнай мастацкай адукацыі. Дома Юрый Матусевіч — клапатлівы бацька, які прыдумляе для дзвюх дачок розныя цікавосткі. Напрыклад, здымае незвычайныя міні-фільмы пра прыродныя з'явы, якія не ўбачыш «няўзброеным» вокам. Чаго ж чакаць ад чалавека, які ў звычайнай вазе можа разгледзець паверхню Марса? Зразумела, новых здзяйсненняў!

**Марыя ВОЙЦІК**

**На здымках:** *вобразы, створаныя Юрыем Матусевічам з манет.*

# Немагчымае, але сапраўднае!

**Выстаўка «IMP-ART 2014: немагчымае мастацтва і аптычныя ілюзіі. Упершыню ў Беларусі» працуе ў сталічным Цэнтры сучасных мастацтваў. Гэта сумесны праект ЦСМ, Паволжскага аддзялення Расійскай акадэміі мастацтваў і Творчага саюза мастакоў Расіі, рэалізаваны пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Міністэрства культуры Расійскай Федэрацыі.**



*Мухадзін Кішаў «Казачны тунэль». 2012 г.*



*Святлана Паўлоўская «Акно ў сад». 2014 г.*

Немагчымае мастацтва (imp-art, impossible art) — асобная галіна аптычнага мастацтва, якая канчаткова сфарміравалася ў Еўропе ў 80-я гады мінулага стагоддзя. У цэнтры ўвагі гэтай мастацкай плыні — разнастайныя аптычныя ілюзіі, спецыфіка якіх — у адлюстраванні трохмерных аб'ектаў на плоскасці. Пэўная ўзаемасувязь паміж элементамі такіх выяў не дазваляе ўспрымаць сукупнасць гэтых элементаў адназначна.

«Маляваць — значыць падманваць», — казаў нідэрландскі графік Маурыц Карнеліс Эшэр. І не памыляўся, бо мастак, ствараючы ў рабоце ілюзію прасторы, выступае майстрам пераканання сузіральніка ў наяўнасці аб'ёму і перспектывы.

Праекты немагчымых фігур, візуальныя ілюзіі і галаваломкі — крыніца натхнення многіх сучасных мастакоў і дызайнераў. Мэта выставачнага праекта «IMP-ART» — прадэманстраваць сённяшні ўзровень развіцця немагчымага мастацтва ў СНД у кантэксце сусветнай культуры.

Першая выстаўка «IMP-ART» адбылася ў красавіку 2013-га ў маскоўскай выставачнай зале «Тушына», а працяг атрымала ў Дзяржаўнай карціннай галерэі «Образ» у Калузе. Летась жа выстаўка і навукова-практычная канферэнцыя «IMP-ART» прайшлі ў Маскоўскай дзяржаўнай мастацка-прамысловай акадэміі імя С. Р. Строганава і Саратаўскім дзяржаўным мастацкім музеі. Экспазіцыя ў Мінску — пятая па ліку ў межах гэтага міжнароднага праекта (куратары — акадэмік Канстанцін Худзякоў, кіраўнік секцыі дэкаратыўнага мастацтва Творчага саюза мастакоў Расіі Яўген Мацько і дацэнт Маскоўскай дзяржаўнай мастацка-прамысловай акадэміі імя С. Р. Строганава Анастасія Агафонава).

Экспанаты выстаўкі выкананыя ў розных тэхніках: тут і жывапіс, і графіка, і гарачая эмаль, і інсталяцыі, і фотаработы, і камп'ютарная графіка… Прычым сярод удзельнікаў выстаўкі — прадстаўнікі Расійскай акадэміі мастацтваў, Творчага саюза мастакоў Расіі, Маскоўскага саюза мастакоў і г. д. Дарэчы, у назвах многіх работ сустракаецца слова «немагчымы»: «Немагчымы партрэт» Аляксандра Стоцкага, «Немагчымая кампазіцыя» Улада Аляксеева, «Немагчымая фігура» Вольгі Ярохавай, «Немагчымы рух» Людмілы Зайчыкавай.

У экспазіцыі прадстаўлены работы куратараў выстаўкі, а яшчэ — Антона Багішава, Мухадзіна Кішава, Юрыя Сычкова, Вольгі Самоўскай, Святланы Паўлоўскай, Георгія Ліхавіда, Паліны Лантані ды іншых мастакоў.

**Яна ЯВІЧ**



Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

# Гармонія, народжаная ў дрэве

Фонд Івянецкага музея традыцыйнай культуры налічвае больш як 19 тысяч прадметаў. Экспазіцыя распавядае пра побыт і культуру жыхароў гарадскога пасёлка і яго ваколіц. Цікавасць уяўляюць матэрыялы, якія датычаць графа Бенядзікта Тышкевіча, Канстанціна Паплаўскага, Казіміра і Люцыі Дзяржынскіх, народных музыкаў і мясцовых настаўнікаў. У 1998 годзе пры ўстанове быў створаны Цэнтр рамёстваў, дзе дзейнічаюць майстэрні ткацтва, ганчарства, кузня, майстэрня па мастацкай апрацоўцы драўніны і «Карчма». У музеі багатая калекцыя дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва — больш як 350 экспанатаў. Асаблівую цікавасць выклікаюць творы, выкананыя носьбітам глыбінных традыцый народнага разьбярства, самабытным мастаком-жывапісцам і адмысловым графікам Апалінарам Пупко (1893 — 1984).

Род майстра славіўся патомнымі майстрамі — мулярамі, ганчарамі, разьбярамі, чырванадрэўшчыкамі. А яшчэ Апалінар увабраў у сябе дух творчага асяроддзя, што быў уласцівы Івянцу як найбуйнейшаму цэнтру народнага мастацтва, росквіт якога прыпадае на дзіцячыя і юнацкія гады майстра. Усё яго доўгае і плённае жыццё прайшло ў гэтым мястэчку.

Прафесійнай мастацкай адукацыі Апалінар не атрымаў. З дзяцінства з вялікай асалодай пісаў эцюды родных краявідаў акварэллю, ляпіў з гліны, рэзаў па дрэве, маляваў алоўкамі. Бацькоўская хата была для творцы акадэміяй жыцця, дзе сфарміраваўся яго творчы і грамадзянскі светапогляд. Распісаныя ім сцены і столь памяталі бальшавіка Фрунзэ, які часова тут кватараваў, адраджэнца Ядвігіна Ш.



Цётка.

У хаце лунаў дух продкаў сям'і Пупко, увасоблены ў «Сямейным партрэце». Вобраз маці праходзіў праз творчасць Апалінара Фларыянавіча ў шматлікіх партрэтных адлюстраваннях. Пасярод залы стаяў стол адмысловай работы, выштукаваны залатымі рукамі бацькі. Арганічна ўпісваліся ў інтэр'ер і шматлікія драўляныя скульптуры майстра. Многія, хто ўпершыню наведваў гэтую хату, нямелі ад выяў рымскіх ваяроў у поўнай амуніцыі. У сенцах, дзе ўсё было пазавешана карцінамі і пазастаўлена скульптурамі, у паўзмроку, наводзячы жах, у вочы кідаліся статуі Чорта і Бабы Ягі. Але спадчына творцы пакінула родную хату і ўзбагаціла розныя музеі рэспублікі і па-за яе межамі.

Майстар дамагаўся гармоніі зместу і формы. Кампазіцыйная пабудова надавала творам шматварыянтнасці. Дасканала выкарыстоўваюцца як вертыкальныя, так і гарызантальныя кампазіцыйныя схемы. Кампактныя скульптуркі, зробленыя з суцэльнага кавалка дрэва, уключаюць у сябе адна-, дзвюх- і трохфігурныя сцэнкі бытавога жанру. Майстар адмаўляецца ад паліхромнай размалёўкі скульптур, шмат увагі надае натуральнай тэкстуры дрэва. Абагульняючы форму,





Ян Чачот.

ён выкарыстоўвае прыём пласкаснога вырашэння архітэктонікі аб'ёмаў, паказваючы галоўнае праз скрупулёзную прапрацоўку дэталей, і дасягае глыбокага псіхалагізму персанажаў. Памеры скульптур набываюць лагічную суразмернасць, работы добра глядзяцца ў інтэр'еры і жылой хаты, і выставачнага павільёна. Усё гэта ўласціва такім творам, як «Ганчар», «Бабыль», «Быкоўскі едзе да Паўлінкі», «Несцерка», «Лепш застацца ўдавой» і інш.

Са здабыткаў партрэтнага жанру — бюсты Дуніна-Марцінкевіча, Адама Міцкевіча, Ісуса Хрыста, абагульненыя вобразы сялян, якіх аўтар па-майстэрску вырабіў з кругляка дрэва.

Цікавыя па выкананні работы «Маці» і «Шляхціч». У паглыбленні ствала дрэва — добра прапрацаваны твар роднага чалавека, намёкам падаецца рука, знізу, вакол асновы-пастамента, уецца раслінны арнамент. Проста, але выразна. А груба высечаная галава шляхціца раптоўна пераходзіць у шыю-ствол. Ствараецца ўражанне моцы, нахабства і ганарыстасці персанажа.



Летапісец.

Творчае натхненне разьбяра не абмінула блізкіх па духу асоб беларускай культуры — Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Кастуся Каліноўскага, Францішка Багушэвіча, якім ён прысвяціў шэраг работ. Вельмі ўражвае постаць паэтэсы Цёткі, у прыватнасці, спалучае лірызм з манументальнасцю, што перадае сапраўдны патрыятызм адраджэнкі.

Мне давялося быць сведкам, як васьмідзесяцігадовы маэстра ўвасабляў вобраз Вітаўта Вялікага ў даволі грунтоўным па памерах гарэльефе. З расшчэпленага напалам таўшчэзнага ствала ліпы майстар ствараў арыгінальную кампазіцыю: аб'ёмную выяву галавы вялікага князя і шматлікія атрыбуты сівой мінуўшчыны, якія месцамі паглыбляліся да контррэльефу. Здзіўляе не толькі віртуознае майстэрства, але і незвычайныя веды разьбяра па гісторыі Бацькаўшчыны. З другой паловы дрэва майстар зрабіў пано да 1000-годдзя Беларусі.

У апошнія гады жыцця ён спяшаўся завяршыць аздабленне сваёй хаты звонку. Закончыў ліштвы на вокнах. Два вялікія рэльефы да веранды рэзаў амаль навобмацак. На адным з іх — выява сейбіта, на другім — сялянская мадонна з дзіцем на руках. Рэльефы атрымаліся цікавыя, манументальна-эпічныя. Дэкаратыўныя карункі з кветак і раслін падкрэсліваюць элегантнасць філасофска-жыццёвай задумы аўтара.

**Алег РАМАНОЎСКІ**

# Запрашэнне ад вавёркі

**Напярэдадні Новага года ў Вялікай Бераставіцы адкрылася незвычайная ўстанова — Музей Вавёркі.**



Фота Яўгена Волкава

*Фрагменты экспазіцыі Музея Вавёркі — манекен гусара канца XVI ст. і капа з арнатам (канец XVIII — пачатак XIX стст.).*

Гэта стала магчымым дзякуючы мясцовым краязнаўцам, якія пачынаючы з 1972 года збіралі, апісвалі і захоўвалі прадметы музейнага значэння. Аднак сама ідэя нарадзілася восем гадоў таму, калі быў зацверджаны сучасны герб пасёлка. За аснову ўзята выява пячаткі — вавёрка, якая сядзіць на скрутку. Карысталіся пячаткай бераставічане пасля атрымання магдэбургскага права ў 1754 годзе. Так сімпатычны звярок стаў галоўным сімвалам Бераставічыны.

Музей невялікі па плошчы, складаецца з чатырох тэматычных залаў. Першы экспанат, які заўважаюць наведвальнікі, бегае-мітусіцца па вальеры, выглядаючы пачастункаў: жывая вавёрка збірае вакол сябе і дзяцей, і дарослых.

Першыя дзве залы распавядаюць пра асаблівасці сямейства вавёркавых. Інтэрактыўная карта адлюстроўвае арэал пражывання 27 відаў, а схемы, дыяграмы і малюнкі распавядаюць пра колькасць вавёрак у нашых лясах, іх відавую разнастайнасць. Асобнае месца адведзена прадметам дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, жывапісу, філатэліі і нумізматыкі, якія таксама маюць выяву вавёркі.

Краязнаўчая частка музея пачынаецца з сучаснага герба Вялікай Бераставіцы. Трэцяя і чацвёртая залы прыадкрываюць таямніцу мінулага пачынаючы з III тысячагоддзя да нашай эры. Гэтым



Жывы экспанат.

перыядам датуецца першая археалагічная знаходка на Бераставічыне — шарападобная амфара, дакладная копія якой прадстаўлена ў экспазіцыі. Побач можна ўбачыць макет Верхаўлянскага свяцілішча IX — XII стагоддзяў — месца язычніцкага культу. Далей пераносімся ў XVI стагоддзе, калі мястэчка было падаравана Аляксандру Хадкевічу і працяглы час належала прадстаўнікам гэтага роду.

У раздзеле, прысвечаным уладальнікам Вялікай Бераставіцы, змешчаны гербы і партрэты Хадкевічаў, Мнішкаў, Касакоўскіх, Евангелле, прадмову да якога напісаў Рыгор Хадкевіч, карта Вялікага Княства Літоўскага 1643 года, дзе поўнач знаходзіцца з правага боку, макет касцёла (цяпер будынак у паўразбураным стане) і рэчы з яго. Найбольшую каштоўнасць уяўляюць багата расшытыя залацістымі ніткамі капа і арнат (датуюцца канцом XVIII — пачаткам XIX стагоддзя) і копія прывілеі на атрыманне магдэбургскага права з пячаткай і макет самой пячаткі, макет палаца Касакоўскіх (не захаваўся), кнігі з бібліятэкі яго гаспадароў з экслібрысам і фотаздымкі, зробленыя самім графам Касакоўскім.

Увага наведвальнікаў акцэнтавана і на славутых ураджэнцах Бераставічыны. Адзін з іх — Восіп Кавалеўскі — першы манголазнаўца Расійскай імперыі. Тут і карта маршрута яго падарожжа па Манголіі і Кітаі, і напісаныя ім кнігі, і прадметы побыту манголаў.

Чацвёртая зала пераносіць у мінулае стагоддзе. Першая сусветная вайна прадстаўлена ў фотаздымках ураджэнца Бераставічыны Рамана Салаўя, які засведчыў быт вайскоўцаў і баявыя дзеянні. Значную частку памяшкання займае «бераставіцкі кірмаш» міжваеннага перыяду, дзе прадстаўлены дываны, калаўроты, маслабойкі, збанкі, глякі і іншыя неабходныя ў паўсядзённым побыце рэчы.

**Анастасія ВЕСЯЛУХА-ВОЛКАВА,**
**фота аўтара**

# Калядны вір

**Калядная пара яшчэ не паспела адзвінець. Як заўсёды, насычаную праграму прапануе Мінскі абласны цэнтр народнай творчасці. Тут да калядных урачыстасцей рыхтуюцца карпатліва, як, зрэшты, і да ўсякага свята. Вось ужо 75 гадоў цэнтр спадарожнічае творчасці, стымулюе культурныя працэсы. Што дапамагае захоўваць і развіваць лепшае ў народным мастацтве? Пра гэта размова з дырэктарам установы Раісай Вайцяхоўскай.**


Фота Кастуся Дробава

Раіса Вайцяхоўская.

**— Раіса Іосіфаўна, з чым сустрэлі 75-гадовы юбілей? Што ў творчым даробку?**

— Адзначу багаты фестывальны рух. Кожны раён славіцца сваім святам: «Слуцкія паясы» традыцыйна праходзяць у Слуцку, «Карагод сяброў» (харэаграфічнае мастацтва) — у Клецку, «Пеўчае поле», якое праводзілася ўжо 60-ы раз і, дарэчы, набыло статус рэспубліканскага, — у Мядзельскім раёне, ля возера Нарач. Галоўны ж фестываль Міншчыны — «Напеў зямлі маёй». У гэтым прэстыжным форуме ўдзельнічаюць усе калектывы з найменнямі «народны» і «ўзорны». Праводзіцца ён раз на год у Мар'інай Горцы напярэдадні Дня работнікаў культуры, фінансуецца аблвыканкамам. Галоўны прыз фэсту — аўтамабіль. У межах Дзяржаўнай праграмы адраджэння тэхналогій і традыцый вырабу слуцкіх паясоў на 2012 — 2015 гады наш цэнтр пры падтрымцы абласных улад год таму ініцыяваў свята рамёстваў «Слуцкія паясы». Традыцыя яго правядзення з гэтага часу замацуецца за Слуцкам. Тут таксама ладзіцца свята «Беларуская лялька». Што толькі не прадстаўлена на падвор'ях: ткацтва, кераміка, лаза, дрэва, саломка. Можна купіць сувеніры, зрабіць штосьці сваімі рукамі. Спадзяёмся, у наступным годзе свята стане шырэйшым і ахопіць цэлыя вуліцы рамеснікаў. Ва Уздзенскім раёне заснавана свята «Беларускі пояс», праводзілася ўжо два разы. Калі 20 гадоў таму паясамі займаліся толькі 4 рэгіёны, то сёння — амаль кожны. Актыўныя ўсе: Любанскі, Слуцкі, Валожынскі, Капыльскі, Мінскі, Вілейскі, Клецкі, Салігорскі...

Гонар Мінскага раёна — фальклорны калектыў «Калыханка», Валожынскага — заслужаны аматарскі калектыў «Гасцінец» (кіраўнік Лізавета Пятроўская), Любанскага — фальклорны гурт «Верабейкі» (кіраўнік Сяргей Выскварка). А колькі яшчэ цудоўных творчых суполак шчыруе ў культурнай прасторы Міншчыны!

**— Як прадстаўлены літаратурна-мастацкі кірунак?**

— Ужо 10 гадоў працуе клуб паэтаў і кампазітараў «Жывіца» пад кіраўніцтвам Ірыны Карнаухавай. Мэта — развіццё творчай індывідуальнасці. Самадзейныя аўтары, дарэчы, вельмі запатрабаваны на тэматычных мерапрыемствах, у прыватнасці ў Нацыянальным свяце песні і паэзіі ў Маладзечне. Плёнам творчасці «Жывіцы» за апошнія гады сталі паэтычныя зборнікі «Расчыні ў вясну акно» і «Праз восеньскі ажур», гумарыстычны зборнік «У адно акенца».

**— Якія актуальныя задачы на цяперашні час?**

— Сёння актыўна ідзе аптымізацыя, рэфармаванне сеткі: новы век — новыя падыходы. Некаторыя клубныя ўстановы не адпавядаюць сучасным павевам часу. Прошта адкрываць і закрываць клубы, зразумела, недастаткова, асабліва ў тых вёсках, дзе засталося мала насельнікаў, якія часам перш за ўсё маюць патрэбу ў сацыяльных паслугах. Час за ўзбуйненымі цэнтрамі культуры, у якія людзі з радасцю будуць кіравацца.

Моладзь здзівіць сёння вельмі складана, але стараемся. Нашы флагманы — Дзяржынскі гарадскі дом культуры, Маладзечанскі палац культуры. Летась здадзены Уздзенскі раённы цэнтр культуры.

**— Калі ласка, пра творчыя стасункі...**

— Актыўна супрацоўнічаем з універсітэтам культуры і мастацтваў, Інстытутам культуры Беларусі, з Мінскім каледжам мастацтваў, Маладзечанскім музычным каледжам, з Акадэміяй музыкі, тэатрам імя Янкі Купалы, музычным, Вялікім тэатрамі... Праводзяцца семінары, практыкумы, майстар-класы.

забаву, а вось такіх калядоўшчыкаў празвалі ў народзе «царамі».

**— Дык гэты абрад унікальны?**

— Так! Абрадавае дзеянне пачынаецца ўвечары 13 студзеня. У гурце калядных цароў — 7 маладых хлопцаў, апранутых у белыя кашулі, белыя штаны і падперазаных чырвонымі семежаўскімі паясамі з геаметрычным арнаментам. Паясы крыжнакрыж і на грудзях. На шыі — вялікая жаночая хустка «тараноўка», на галаве — высокія папяровыя шапкі з match каляровымі кутасамі. У кожнага з цароў пэўнае імя: цар Максімільян, цар Мамай, цар Іван Грозны…

**— Каляда ў вас сапраўдная — актыўная…**

— Калядуюць і шчадруюць таксама на абрадзе «Шчадрэц» у вёсцы Рог Салігорскага раёна. Да Каляд традыцыйна ў выставачнай зале цэнтра праводзім выстаўку сучаснага народнага мастацтва «Калядныя ўзоры». Арганізатар — Беларускі саюз майстроў народнай творчасці (кіраўнік — Яўген Сахута), з якім цесна супрацоўнічаем і сябруем. Фінансавую падтрымку аказвае Міністэрства культуры. Экспазіцыя збірае майстроў з усёй рэспублікі.

**— Што ў творчых планах? Чаго чакаеце?**

— У Бярэзінскім раёне, у вёсцы Новіны, 21 студзеня зладзім калядны абрад «Цягнуць каляду на дуба». У гэтым раёне ёсць сямейны калектыў «Радзіна», які атрымаў званне «народны». Вялікая сям'я: дзеці, бабулі, прабабулі, цёткі, дзядзькі — усе ў адным калектыве. Яны прадаўжаюць традыцыю і кожны год цягнуць каляду на дуба.

**— І як гэта?**


Фота Алены Ляшкевіч

Абрад «Цягнуць Каляду на дуба».

**— Апошнім часам асаблівая ўвага надаецца аб'ектам нематэрыяльнай культурнай спадчыны. Ці ёсць зрухі ў гэтым напрамку?**

— Адзінаццаці аб'ектам нематэрыяльнай культурнай спадчыны нададзены статус гісторыка-культурнай каштоўнасці. На 4-й сесіі Міжурадавага камітэта ЮНЕСКА, якая прайшла ў кастрычніку 2009 года ў Абу-Дабі (ААЭ), калядны абрад «Цары» вёскі Семежава Капыльскага раёна першым у Рэспубліцы Беларусь уключаны ў спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА. Дарэчы, рыхтуюцца да ўключэння ў спіс яшчэ 10 аб'ектаў.

**— Адкуль такая гучная назва — «Цары»?**

— Паводле мясцовай легенды, запісанай ад Мікалая Афанасьевіча Скамароха, у XVIII стагоддзі ў в. Семежава кватараваў атрад рускай арміі. На Шчодры вечар вайскоўцы прыдумалі хадзіць па хатах, зычыць дабра гаспадарам. Весялілі сцэнамі з папулярнай тады на Беларусі драмы «Цар Максімільян». Пасля вяскоўцы пераймалі

— Вязуць на санях упрыгожаны сноп, а потым умацоўваюць на дуб, каб цэлы год было ўсім добра. Абрад захаваўся ў жывой традыцыі ў вёсцы Новіны і з'яўляецца адметнасцю Бярэзінскага раёна. Старую саламяную ляльку (сноп) здымаюць, а на дуб усцягваюць новую. Спяваюць абрадавыя песні:

*Каляда, Калядзіца, добрая маладзіца!*
*Мы цябе адгулялі, добра шанавалі.*
*Цяпер цягнем на дуба, і сядзі там,*
*мая люба!*
*На лета будзем цябе ждаць, пірагі*
*й каўбасу гатаваць.*
*А ты сядзі высока, а ты глядзі далёка,*
*каб ячмень і авёс вялікі парос,*
*Каб наша жыта каласілась, каб наша*
*жыта не лажылась.*

Усяго не перакажаш! Лепш пабачыць гэта на свае вочы!

**— Гэтым разам будзе штосьці асаблівае?**

— Абавязкова! Уражанняў назапасіце на год наперад! Так што сардэчна запрашаем!

**Наталля СВЯТЛОВА**

*Спадчына*

# Горад мой…

**У Музеі гісторыі горада Мінска працуе выстаўка жывапісу, графікі і фатаграфіі «Мінск — старажытны і малады». У экспазіцыі прадстаўлена больш як 50 фотакопій старых паштовак з малюнкамі канца XIX — пачатку XX стагоддзя.**

Паштоўкі з яго краявідамі друкаваліся ў прыватных выдавецтвах. Яны выходзілі серыямі — па некалькі дзясяткаў сюжэтаў. Фатографы імкнуліся адлюстраваць не толькі архітэктуру, але і жыццё, этнаграфічнае аблічча горада.

На картках можна ўбачыць мінчан розных саслоўяў, апранутых па модзе пачатку XX стагоддзя. Вось конка і сялянскія калёсы, дыліжанс возчыка і першы аўтамабіль. Дакументальна зафіксавана, як выглядалі тады вуліцы і асобныя будынкі. Сярод апошніх — помнікі культавай архітэктуры, заводы, гімназіі, установы, якіх даўно няма. Старыя мінскія паштоўкі — каштоўныя дакументы па гісторыі горада.

Экспануюцца серыі графічных работ пра Мінск Леаніда Марчанкі, народнага мастака Беларусі Уладзіміра Стальмашонка, Івана Мядзведзева, Уладзіміра Шаркова.

Алоўкавыя замалёўкі Уладзіміра Стальмашонка адлюстравалі горад першага пасляваеннага дзесяцігоддзя. Перад намі — праспект Незалежнасці, які толькі будуецца, стадыён «Дынама», добраўпарадкаванне ракі Свіслач у раёне парка імя Горкага.

Іван Мядзведзеў працаваў галоўным мастаком Мінска з 1959 па 1967 год. Яго работы — пейзажныя замалёўкі сталіцы 1950-х — 1960-х: архітэктурныя ансамблі плошчаў былога Ленінскага праспекта: Дом урада, Палац прафсаюзаў, Дом афіцэраў.

Гэта не сухія накіды мастака-архітэктара, а дакументальныя ілюстрацыі жыцця Мінска першых пасляваенных дзесяцігоддзяў. Цэнтральныя вуліцы запоўненыя людзьмі, па ціхіх завулках шпацыруюць мінчукі, аўтамабілі і аўтобусы рэдкіх марак курсіруюць па дарогах сталіцы.

Уладзімір Шаркоў вядомы серыямі работ пра родны горад: «Мой горад», «Мінск старажытны», «Гарадскія мелодыі», «Гісторыя транспарту». Апошняя з іх прадстаўлена на выстаўцы. Мастак прасачыў, як змяняўся транспартны рух у горадзе з XIX стагоддзя да нашых дзён.

Маляўнічыя палотны Аляксандра Пуцейкі, Барыса Аракчэева, Сяргея Каткова, Віктара Барабанцава, Мікалая Мішчанкі цёплымі фарбамі ажыўляюць мінскія вуліцы і праспекты. Храналогія гэтых работ ахоплівае перыяд з 1960 па 2000 год. Кожны мастак перадае непаўторную атмасферу Мінска рознага часу. Архітэктура, вуліцы, плошчы — усё гэта вядомае і блізкае мінчукам XXI стагоддзя, змяняецца толькі непаўторны для кожнай эпохі дух горада, яго настрой, які захавалі мастакі.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Аляксандр ХРОМАЎ:
# «Гэта рок-н-рол...»

**Розгалас спектакля «Тэдзі» ў Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача прыцягнуў увагу да аднаго з найцікавейшых сучасных расійскіх драматургаў — Аляксандра Хромава. У тэатрах Расіі паводле ягоных п'ес пастаўлена шаснаццаць спектакляў. З творцам — наша гутарка.**



*Сцэна са спектакля «Тэдзі».*

**— Аляксандр, як трапілі ў тэатр і засталіся тут? Адукацыя дазваляе вам працаваць у IT-галіне...**

— У 1980-х, пасля заканчэння інстытута (спецыяльнасць — радыёінжынер-канструктар), я працаваў у навукова-даследчым інстытуце, але гэта не замінала мне адгадваць самыя доўгія валасы ў горадзе ды «лабаць» рок-н-рол. Я меў уласную студыю, свой рок-гурт, для якога сам пісаў і тэксты. У прынцыпе, і граць мог на ўсіх інструментах. Шэсць гадоў працаваў на «передавую савецкую навуку». Пасля сыходу з НДІ збіраў камп'ютары на продаж і на замову. У савецкую навуку так і не вярнуўся. Якраз у гэты час да мяне звярнуўся калектыў прыватнага тэатра марыянетак з просьбай напісаць ды запісаць музыку. Потым супрацоўнікі яшчэ колькі разоў замаўлялі мне музыку, а аднойчы — нават п'есу. Калі тэатр паклікалі ў заходнюю частку краіны, хлопцы з'ехалі, а лялькі і дэкарацыі пакінулі мне. А дзесьці ў сярэдзіне 1990-х з'явіліся мае старыя знаёмцы-рокеры і папрасілі знайсці ім работу. Я адказаў: «Вунь у мяне ў гаражы тэатр ляжыць — бярыце, рабіце…» Але калі прыйшлі ў гараж, убачылі: усё пагніла. Пасля таго я напісаў колькі п'ес, знаёмыя мастакі зрабілі дэкарацыі і лялькі. Папраўдзе, гэта быў рок-н-рол. Вось мы як «лабалі», так і прыцягнулі гуляць у лялечны тэатр. Спектаклі ішлі пад фанаграму, з запісанымі галасамі. Ролі агучвалі прафесійныя артысты, а лялькамі кіравалі рокеры. Пры гэтым на рок-фэстах патраплялі іграць лялечныя спектаклі, «Муху-Цакатуху», напрыклад. У нас быў адміністратар, які ладзіў па чатыры пастаноўкі на дзень. Так за колькі гадоў мы сыгралі тысячы спектакляў. Але ў жніўні 1996-га наш «Балаган» (так мы яго назвалі) прагарэў з-за крызісу.

У 1997-м мне патэлефанаваў дырэктар Краснаярскага краёвага тэатра лялек і спытаўся, ці не хачу я працаваць там гукарэжысёрам. Я згадзіўся, а пасля стаў загадчыкам музычнай часткі. У гэтым быў нейкі драйв! Праўда, паступова драйв пачаў знікаць, я — прызвычайвацца.

**— Працаваць у IT не схацелі?**

— IT у Еўропе і ў Расіі — зусім не адно і тое ж. За мяжой гэта распрацоўка будучыні. Айцішнікі — абслуга. А калі ты асоба творчая... Нават калі займаўся навукай, быў упэўнены, што гэта творчасць, і мог працаваць па 12 — 15 гадзін.

**— Як у вашай асобе знаходзяць паразуменне рэжысёр і драматург?**

— Нармалёва. Для мяне гэта рок-н-рол, а там не мае значэння, за які інструмент ты ўзяўся: калі ёсць што сказаць і адчуваеш гукі, — задаеш тэму, астатнія табе падыгрываюць. Наспявае час саліраваць каму іншаму — сцяг яму ў рукі. Усё гэта рок-н-рол! Рэжысёрам я сябе не лічу. Рэжысура — прафесія, ёй вучыцца трэба. А я не так і шмат паставіў, у прафесійным тэатры — усяго два спектаклі: адзін у Краснаярску, адзін у Чыце. Да ўсяго пастаноўкі эксперыментальныя. Але першая прынесла мне і тэатру прыз рэгіянальнага фестывалю «За новае слова ў тэатры лялек», другая — велізарную радасць супрацоўніцтва з артыстамі забайкальскага лялечнага тэатра. Не ведаю, наколькі слушна гэта было па-рэжысёрску. Калі б п'есы былі чужыя, не мог бы сабе дазволіць эксперыментаваць. Хоць, калі б п'есы былі чужыя, я б за іх не ўзяўся.

**— Як вас змяніў, ці выхаваў, лялечны тэатр?**

— З пункту гледжання творчасці анічога не змянілася. Хіба што я зрабіўся больш адказным за тое, што ствараю. Зболышага ж пішу для дзяцей, а ім неабавязкова знаёміцца з усімі маімі кузуркамі. У мяне з'явілася шмат сяброў у розных гарадах краіны, ды за мяжой таксама: лялечнае братэрства вялікае. І сыны мае цяпер у лялечным тэатры. Старэйшы скончыў рэжысуру ў Санкт-Пецярбургскай дзяржаўнай акадэміі тэатральнага мастацтва, а малодшы, будучы артыст, вучыцца тамсама.

**— Ці бераце вы пад увагу асаблівасці лялечнага тэатра, калі ствараеце п'есы, і як гэта адбіваецца на пастаноўках у тэатры драматычным?**

— Часцей за ўсё нават ведаю, для якой лялечнай сістэмы пішу. Больш за тое, часам ведаю артыстаў, якія будуць увасабляць маю п'есу, таму што пішу на замову. Зрэдчас сёе-тое не супадае з маімі ўяўленнямі, але часцей за ўсё атрымліваецца па-мойму: тэхналогіі лялечнага тэатра і «фізічныя» магчымасці лялькі ўлічваю заўсёды. Мне важна працаваць па замове не таму, што без яе п'еса ляжа ў шуфляду, а таму, што я ведаю, для каго гэта раблю. Што да тэатра драматычнага, дык Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача пакуль адзіны драматычны тэатр, які ўзяў да пастаноўкі маю п'есу. Але «Тэдзі» не зусім лялечная п'еса, хоць і напісаная для лялечнага тэатра.

**— Вы загадчык музычнай часткі Краснаярскага краёвага тэатра лялек...**

— За сямнаццаць гадоў працы гукарэжысёрам стварыў музычнае афармленне для больш як пяцідзесяці спектакляў, і не адно ў сваім тэатры. Мяне запрашаюць у іншыя тэатры краіны, і не толькі ў лялечныя. У палове выпадкаў музыку для спектакляў падбіраю. З вялікім задавальненнем супрацоўнічаю і з кампазітарамі. Пісаў музыку да некаторых спектакляў. Але пасля цяжкай хваробы страціў магчымасць самастойна іграць на інструментах і болей не пішу. П'есы трапляліся розныя, рэжысёры — таксама, але сваю работу намагаўся рабіць як мага лепш.

**— Як на ваша жыццё ў мастацтве ўздзейнічае Краснаярск?**

— Мне ёсць з чым параўнаць, і магу дакладна сцвярджаць, што ў Краснаярска няма ніякіх асаблівасцей — звычайны правінцыйны горад. Біблейская фраза пра тое, што няма прарока ў сваёй айчыне, тут спраўджваецца на ўсе сто працэнтаў. Калі чалавек чагосьці дасягае, ён, як правіла, з'язджае адгэтуль. А калі хто і застаецца, дык, пэўна ж, не таму, што Краснаярск — горад адметнай культуры. Увогуле, для драматурга не мае значэння, дзе ён знаходзіцца геаграфічна, таму што ўсё, што ты пішаш, вынікае з унутранага свету, а ён не мяняецца паводле змен шыраты альбо даўгаты.

**Гутарыла Жана ЛАШКЕВІЧ**

**Нацыянальны гістарычны музей Беларусі прэзентаваў выстаўку «Грані натхнення». Экспазіцыя прадстаўляе работы Яўгена Ждана і яго вучня Аляксандра Рашэтнікава.**

# Эскізы гісторыі



*Аляксандр Рашэтнікаў «Домік лесніка». 2012 г.*

Я. Ждан адзначае 55-годзе творчай дзейнасці. Гэта яркі прадстаўнік сучаснага выяўленчага і тэатральнага мастацтва Беларусі. Яўген Іванавіч скончыў Мінскае мастацкае вучылішча, Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Працаваў у Дзяржаўным тэатры оперы і балета, з 1987 года — галоўны мастак у Рэспубліканскай дырэкцыі эстрадна-цыркавога мастацтва, з 1994-га — галоўны мастак Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Беларусі. Афармляў спектаклі «Пасля балю» Г. Вагнера, «Галька» С. Манюшкі, «Аіда» Дж. Вердзі, «Дэман» А. Рубінштэйна, «Цыганскі барон», «Капялюш Напалеона» А. Штрауса.

Аўтар жывапісных твораў на гістарычную тэматыку «Францыск Скарына», «Еўфрасіння Полацкая», «Рагнеда», «Князь Чарадзей Полацкі»; серыі графічных лістоў «Янка Купала», «Будучыня», «1000-годдзе хрышчэння Русі», цыкла «Жыццё беларускіх святых».

Работы мастака знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўным цэнтральным тэатральным музеі імя А. Бахрушына і Траццякоўскай галерэі ў Маскве, у прыватных калекцыях.

Мастак-аматар А. Рашэтнікаў адзначае 10-годдзе творчай дзейнасці — яго творчы шлях пачаўся ў сталым узросце. Шмат падарожнічаў па свеце і падчас паездак рабіў замалёўкі, якія ператвараліся ў эскізы будучых работ. Абраны напрамак мастацтва — «наіўны прымітывізм».



*Яўген Ждан. Эскіз Дэкарацыі «Дуэль» да оперы «Яўгеній Анегін» П. І. Чайкоўскага. 1983 г.*

У работах мастака — славутыя дзеячы беларускай гісторыі, вясковы побыт ды інш.

**Ганна ШЫМУК**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Адкрытага акцыянернага таварыства «Чырвоная зорка»**
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
г. Мінск, 1-ы Загарадны зав., 3
Індэкс 220073
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2263.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 15.01.2015 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1454.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686